# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW. RUNBEL. LT

18 лютага 2004 г. № 54 кошт 1 літ




У чаканьні вясны... Здымак Генадзя Жынкова.

# Шлях да Катынскага лесу

## крыху з асабістых успамінаў і перажываньняў

Крыніца: "Беларускі голас" №№ 31 (75), 32 (76), 33 (77), сьнежань 1943 г.

*Катынская трагедыя моцна ўстраснула усім культурным сьветам. Няма, здаецца, чалавека, які-б не здрыгануўся перад гэтым новым довадам бяспрыкладнага бальшавіцкага зьверства, які-б не зразумеў нарэшце, што дзеля дасягненьня сваіх цёмных мэтаў бальшавікі ня лічацца ні з агульна прынятай этыкай, ні з гонарам, наагул, ні з чым, што робіць магчымым сужыцьцё культурных народаў.*

*Як-жа дайшло да гэтае трагедыі? Можа, пральюць на гэта сьвятло н каторыя з успамінаў чалавека, які асабіста прайшоў цяжкі шлях аж да самага бадай Катыскага лесу...*

### У Львове

Прыблізна каля палавіны верасьня 1939 году, пасьля разьбіцьця польскае збройнае сілы нямецкай арміяй, я прыбыў у Львоў. Львоў яшчэ бараніўся перад наступам нямецкай арміі і там сабраліся бадай усе недабіткі расьцярушанага немцамі польскага войска. За каманьдзера Львоўскага корпусу быў у гэтым часе гэн. Лянгер, за каманьдзера абароны гор. Львова – гэн. Францішак Сікорскі, блізкі сваяк гэн. Уладыслава Сікорскага, бышага прэм'ера сучаснага эміграцыйнага польскага ўраду.

У Львове, як і шмат хто з маіх таварышоў, якім жаўнерскі гонар не дазваляў так лёгка паддацца лёсу, я ўступіў у г. зв. Корпус абароны Львову, якім камандаваў гэн. Янушайціс, і ўзяў удзел у бароне Львова.

Настрой у горадзе панаваў прыгнечаны, мала не безнадзейны. Баі вяліся на прадмесьцях. Кажны мамэнт чакалася, што абаронцы ня вытрымаюць магутнага напору нямецкае арміі, і горад будзе здадзены. А тут яшчэ аднае сонечнае восенскае раніцы, як гром зь яснага неба, ударыла па стомленых абаронцах вестка, што чырвоная армія перайшла межы й набліжаецца да муроў Львову. Спачатку той і гэты ў нас падумаў: "канец!", але пасьля, можа таму, што ніхто ня ведаў добра, зь якой канкрэтна мэтай бальшавікі перайшлі мяжу, а бальшавіцкая прапаганда пачала ўжо біць сваё, – некаторыя, больш лёгкаверныя адзінкі, пачалі, запраўды, верыць у тое, быццам бальшавікі сьпяшаюцца якраз на дапамогу рэшткам польскае арміі, ды ў іншыя, яшчэ менш праўдападобныя байкі.

Камандаваньне Львоўскага корпусу апынулася ў вельмі цяжкім палажэньні. З аднаго боку, жаўнерскі абавязак вымагаў ад яго збройнага выступленьня супроць няпрошаных бальшавіцкіх "памагатараў", з другога боку, яно добра ведама, што весьці абарону на два франты абсалютна немагчыма. Заставалася адно – капітуляцыя. Толькі на чыю-ж карысьць? Лёс хацеў, каб гэн. Лянгер, які, ня ведаючы зусім бальшавікоў, меркаваў, што лепш, хіба, капітуляваць на карысьць тых, зь якімі – няма вайны, – схіліўся на бок бальшавікоў.

Першы крок на даўгім і цяжкім шляху да Катынскага лесу быў зроблены...

### "Пацешная" капітуляцыя

Для ўстанаўленьня ўмоваў капітуляцыі штаб польскага корпусу выслаў дэлегацыю ў штаб чырвонае арміі. На чале апошняй, а, дакладна, на чале тае ейнае часткі, якая займала паўдзённа-заходнюю Польшчу, стаяў Цімашэнка, пазьнейшы маршал Савецкага Саюзу й камісар абароны. Супольна з вызначанай Цімашэнкам савецкай дэлегацыяй, польскія прадстаўнікі ўстанавілі, у наіўнай добрай веры, умовы капітуляцыі, напісаўшы іх у форме пратаколу. З савецкага боку пратакол быў падпісаны самым Цімашэнкам, з польскага – гэн. Лянгерам.

Умовы капітуляцыі, на якія, быццам, гадзіліся бальшавікі, ня думаючы зусім іх датрымваць, былі наступныя:

Увесь Львоўскі гарнізон, як і ўсе іншыя вайсковыя адзінкі на тэрыторыі ўплываў Львоўскага корпусу, меліся злажыць зброю й бяз бою паддацца чырвонай арміі. Чырвоная-ж армія, сваім парадкам, абавязалася, зараз-жа абяззброіўшы тут-жа на мейсцы ўвесь радавы склад, – адпусьціць яго дамоў. Афіцэрскі-ж склад меўся быць перавезены аўтамашынамі ў Штаб чырвонай арміі ў г. Тарнопаль, дзе кажны з афіцэраў меўся атрымаць адпаведны дакумент

*Працяг на старонцы 4*

## 23-24 студзеня 2004 г. у г. Менску адбыўся Форум праваабаронцаў, адным з арганізатараў якога выступіла Міжнародная Фэдэрацыя Правоў Чалавека

*У Форуме прынялі ўдзел больш за 150 беларускіх праваабаронцаў, прадстаўнікі міжнародных і замежных праваабарончых арганізацый, а таксама міжнародных ворганаў, якія займаюцца праблемамі правоў чалавека.*

*Міжнародныя эўрапэйскія ворганы былі прадстаўленыя выступамі супрацоўнікаў Генэральнага дырэктарата па правах чалавека Рады Эўропы, Генэральнага дырэктарата па зьнешніх сувязях Эўрапейскай камісіі Эўрапэйскага Саюзу, Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека АБСЭ. З кароткім дакладам выступіў таксама кіраўнік офісу АБСЭ ў Менску Пасол Эберхард Хайкен. У працы Форуму прыняў удзел вядомы расейскі праваабаронца Сяргей Кавалёў.*

### РЭЗАЛЮЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ УДЗЕЛЬНІКАЎ ФОРУМА ПРАВААБАРОНЦАЎ

Мы, беларускія ўдзельнікі Форума праваабаронцаў, заслухаўшы даклады й абмеркаваўшы пытаньні выкананьня правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, з глыбокай занепакоенасьцю за сёньняшняе і будучае нашай краіны, адзначаем:

Шматлікія факты парушэньняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, якія адлюстроўваюцца ў палітычна матываваных выкраданьнях і перасьледзе апанэнтаў рэжыму, незаконным увядзеньнем цэнзуры ў СМІ, перасьледзе журналістаў незалежных СМІ за публікацыю матарэялаў, якія ўтрымліваюць крытыку палітыкі прэзыдэнта й ягонага атачэньня, ліквідацыі зь ініцыятывы дзяржаўных ворганаў, у тым ліку і ў судовым парадку, незалежных газэтаў і грамадзкіх аб'яднаньняў, парушэньні рэлігійных правоў грамадзянаў ды іншых парушэннях палітычных, грамадзянскіх, выбарчых, сацыяльных і моўных правоў.

Шматлікія прынятыя заканадаўчыя акты не адпавядаюць міжнародным нормам у галіне правоў чалавека, вядуць да парушэньня канстытуцыйных правоў грамадзянаў у Рэспубліцы Беларусь. Сярод іх Законы Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях", "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама праект закона "Аб сродках масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

У Рэспубліцы Беларусь адсутнічае незалежная судовая сыстэма, як самастойная галіна ўлады, адсутнічае інстытут незалежнай адвакатуры. Гэта робіць фактычна немагчымай абарону парушаных правоў грамадзянаў у судовым парадку, пазбаўляе грамадзянаў краіны на незалежнае ды справядлівае судовае разбіральніцтва, абмяжоўвае доступ да правасудзьдзя.

Асаблівую занепакоенасьць прадстаўнікоў праваабарончага руху Беларусі выклікае тое, што дагэтуль не праведзенае поўнае, аб'ектыўнае і публічнае расьследаваньне гвалтоўных выкраданьняў вядомых палітычных і грамадзкіх дзеячоў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзьмітрыя Завадзкага. Высноva аб тым, што такое расьследаваньне не праведзенае, знайшла сваё адлюстраваньне ў афіцыйным дакладзе Камітэту ў юрыдычных пытаньнях і правах чалавека Парлямэнцкай Асамблеі Савету Эўропы. Дадзеная высноva й інфармацыя, якая зрабілася вядомая ў выніку правядзеньня журналіцкіх і грамадзкіх расьследаваньняў, дае падставы меркаваць аб дачыненьні некаторых высокапастаўленых дзяржаўных чыноўнікаў і службовых асобаў, у тым ліку Генэральнага пракурора В. Шэймана, Міністра спорту Ю. Сівакова, Міністра ўнутраных справаў У. Навумава, афіцэра СОБР Д. Паўлічэнкі ды іншых, да зьдзяйсьненьня злачынстваў, скіраваных на выкраданьне, а, магчыма, і фізічную ліквідацыю Ю. Захаранкі, В. Ганчара, А. Красоўскага, Д. Завадзкага паводле палітычных матываў.

МЫ, прадстаўнікі праваабарончага руху Беларусі, ПРЫЙШЛІ ДА ВЫСНОВЫ, што:

– сытуацыя з выкананьнем правоў чалавека ў Беларусі няўхільна пагаршаецца;

– прадстаўнікі афіцыйных уладаў груба парушаюць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, міжнародныя пакты і канвэнцыі, ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь, рэзалюцыі й рэкамэндацыі міжнародных арганізацыяў, у тым ліку ААН, АБСЕ, ПАСЕ і інш;

– у Рэспубліцы Беларусь мае месца дыскрымінацыя паводле нацыянальнай, рэлігійнай і моўнай прыкмеце ў разнастайных ейных формах і праявах;

– у краіне створаны жорсткі аўтарытарны рэжым асабістай улады А. Лукашэнкі, фактычна зьнішчаныя такія інстытуты грамадзянскай супольнасьці, як незалежныя электронныя і друкаваныя СМІ, незалежныя грамадзкія аб'яднаньні, а створаная нядаўна адзіная дзяржаўная ідэалёгія сьведчыць пра зьяўленьні ў краіне элемэнтаў таталітарызму;

– перасьлед і перашкоды ў дзейнасьці праваабаронцаў ставяць праваабарончую дзейнасьць па-за аконам.

МЫ, удзельнікі Форума беларускіх праваабаронцаў, ПАТРАБУЕМ ад афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь:

– няўхільна прытрымлівацца міжнародных абавязкаў у галіне правоў чалавека, узятымі на сябе Рэспублікай Беларусь, а таксама прыняць меры да рэальнага забясьпечаньня гарантаваных Канстытуцыяй правоў і свабодаў грамадзянаў у Рэспубліцы Беларусь і рэалізацыі выпрацаваных удзельнікамі Форума рэкамэндацыяў;

– правесьці поўнае, аб'ектыўнае і публічнае расьследаванне зьнікненьняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзьмітрыя Завадзкага й дзеяньняў (бяздзеяньняў) у сувязі з гэтымі расьследаваньнямі вышэйшых службовых асобаў Рэспублікі Беларусь;

– таксама лічым абавязковым на час рассьледаваньня прыпыніць паўнамоцтвы магчыма датычных да дадзеных злачынстваў службовых асобаў;

– распачаць распрацоўку законаў ў галіне правоў чалавека, якія забясьпечваюць неад'емныя правы грамадзянаў і адпавядаюць патрабаваньням міжнародных нормаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

– унесьці зьмены у дзеючае выбарчае заканадаўства, скіраваныя на забясьпечанне прынцыпаў адкрытасьці, празрыстасьці і дэмакратычнасьці выбарчага працэсу, якія гарантуюць рэальную рэалізацыю выбарчых правоў грамадзянаў краіны, таксама забясьпечваюць грамадзкі кантроль за выбарамі;

– правесьці публічны й адкрыты дыялёг паміж грамадзкімі арганізацыямі, праваабарончымі групамі й прадстаўнікамі дзяржаўных ворганаў у пытаньнях зьменаў заканадаўства ды практычнай рэалізацыі патрабаваньняў, выкладзеных у гэтай Рэзалюцыі: адной з самых тэрміновых праблемаў такога дыялёгу павінная зрабіцца пазытыўнае супрацоўніцтва ўладаў краіны зь сем'ямі зьніклых, праваабарончымі арганізацыямі, незалежнымі юрыстамі й міждзяржаўнымі структурамі.

Упэўненыя, што практычная рэалізацыя патрабаваньняў, выкладзеных у дадзенай Рэзалюцыі, дазволіць адрадзіць грамадзянскую супольнасьць і стварыць сыстэму дзяржаўнай улады, заснаваную на няўхільным выкананьні правоў грамадзянаў у Беларусі, а таксама дазволіць пераадолець самаізаляцыю ды пабудаваць дэмакратычную, прававую дзяржаву.

ПОСТАЦІ

# Пра Чэслава Кудабу й ягоную „Манаграфію пра Дукшты"

Сьветлай памяці Чэслава Кудабу, знакамітага літоўскага краязнаўцу, ведаў вельмі даўно. Я закончыў тады Ленінградзкі дзяржаўны пэдагагічны інстытут ім. Герцэна й быў накіраваны на працу настаўнікам у Літву. А Чэслаў Кудаба, на пару гадоў старэйшы за мяне, скончыўшы геаграфічны факультэт Віленскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ім. Капсукаса, быў ужо ў 1964 г. кандыдатам геаграфічных навукаў і дэканам факультэту. У тым самым годзе, дзеля апісаньня і дасьледаваньня Віленскага раёну, была створаная спэцыяльная камісія на чале з старшынёй Аддзела Віленскага раёну Краязнаўчага аб'яднаньня Літ. ССР П. Шымоніце. У камісію, як добра ўжо вядомы географ, быў запрошаны й Ч. Кудаба. Запрасілі таксама 11 настаўнікаў, сярод каторых быў і я.

У 1965 г. была арганізаваная вялікая комплексная навуковая краязнаўчая экспэдыцыя з 60-ці чалавек у Дзевянішкі (гэта зусім побач ад маіх родных Суботнікаў і Жэмласлаўя, славутага маёнтку графа Ўмястоўскага). У Дзевянішках і ў навакольных вёсках ведаў я шмат людзей. Паводле той краязнаўчай экспэдыцыі, у 1968 г. была выдадзеная адна зь першых пасьля вайны краязнаўчых кнігаў на літоўскай мове (412 ст., 30 аўтараў). Артыкул Чэслава Кудабы называўся "Прыродныя ўмовы навакольля Дзевянішак". Ён падчас экспэдыцыі зрабіў таксама шмат фатаграфіяў, якія аздобілі артыкул Зыгмаса Поцюса "На высокай гары", у якім апісваліся магілкі, крыжы, помнікі.


Кладка цераз Нёман у в. Шчорсы. 1983 г.


Чэслаў Кудаба (справа) падчас гутаркі зь мяйцовымі людзьмі з-пад Дукштаў. 70-я гг.

Праф. Чэслаў Кудаба пісаў шмат краязнаўчых артыкулаў, друкаваўся ў "Камсамольскай праўдзе", "Чырвоным штандары", раённай газэце "Дружба". Бываў на раённых канфэрэнцыях, турстычных зьлётах, асабліва часта яго можна было сустрэць на краязнаўчых нарадах і выставах. За сваё даволі кароткае жыцьцё Ч. Кудаба напісаў нямала геаграфічных і краязнаўчых кнігаў (на літоўскай мове), сярод іх "Геаграфічныя падарожжы і адкрыцьці", "Пагоркавая Жэмайція", "Пагоркавая Аўкштайція", "Пра Сьвянцянскі раён", "Ваколіцы Ігналіны" ды інш.

Ч. Кудаба вельмі любіў рэкі, вазёры й лясы, можа таму, што сам нарадзіўся ў вельмі прыгожай мясьціне Беларусі, каля Нарачы, у маляўнічым мястэчку Кабыльнік (цяпер Нарач). Як ён сам казаў, ягоны бацька працаваў закрыстыянам у мяйсцовым касьцёле й заўсёды хадзіў "пад гальштукам". А ў "Савецкай энцыкляпэдыі" пішацца, што ён нарадзіўся ў Ігналінскім раёне ў в. Вайцекаве (разумеецца, на тэрыторыі сучаснай Летувы). Калі Ч. Кудаба даведаўся, што я з Гарадзеншчыны, да таго-ж з-пад Нёмна й Гаўі, ён пачаў са мною размаўляць на чысьцюткай беларускай мове, нават у сябе ва ўнівэрсытэце.

Ч. Кудаба быў аматар плаваць па рэках і вазёрах са сваімі студэнтамі. Чатыры разы праплыўшы ад вытоку да вусьця раку Вяльлю (літ. – Нярыс), ён распачаў працу над кнігай "Па рацэ Вяльлі", часта запрашаў мяне да сябе, высьвятляючы некаторыя дэталі, бо я з сваёй кампаніяй, і незалежна ад яго, тры разы праплыў Нёман, потым Вяльлю, Бярэзіну і Мерачанку (літ. – Меркіс). Працягласьць Вяльлі складае больш 500 км., а яшчэ дзясяткі прытокаў, узьбярэжных вёсачак, мястэчак. Незвычайная прырода, людзі, гісторыя.

Аднак найбліжэй мы пасябраваліся з Чэславам Кудабам у 70-х гг., калі ён кіраваў навуковай працай у Дукштах, што месьцяцца ў 10 км. ад Вяльлі. Ён рыхтаваў да друку цудоўную манаграфію пра навакольле Дукштаў. Прырода там унікальная: сама Вяльля (Нярыс) зь ейнымі агромністымі петлямі-выгбамі. Грыміць, нібыта горны Церак на Каўказе, праходзячы цераз найбольшую дуброву ў Літве, рака Дукшта. Вясною бясконцая бель квітучай чаромхі, каліны ды рабіны, каторая атачае з усіх бакоў замкавыя пагоркі ў Кармазынах і Брадалішках. Крыху далей – лясное возера Эльнякумне й маёнтак, дзе жыў калісьці рэктар Віленскага ўнівэрсытэту Страйноўскі. Тут-жа побач найвялікшая ў Літве украінская энклява: Гейсішкі, Айраны ды інш. вёсачкі, побач возера з назвай Эўропа. Трэба памятаць, што гэты рэгіён заўсёды быў важным стратэгічным мейсцам ва ўсіх войнах і рэвалюцыях. Так у 1914-15 гг. тут праходзіла лінія фронту, дзе моцна стукнуліся армія расейскага ген. Раўневіча й 10-я нямецкая армія ген. Эйхгорна. Тут калісьці былі тры вялізныя вайсковыя могілкі. А колькі людзей палягло ў багне ўрочышча Зялянкі (цяпер там могільнік радыёактыўных адкідаў, пра які я ўжо пісаў у "Руні").

Маладыя супрацоўнікі з групы Кудабы сутыкнуліся ў наваколіцах "літоўскіх" Дукштаў зь вялікай цяжкасьцю. Яны не маглі паразумецца зь мяйсцовымі людзьмі, бо тыя зусім ня ведалі літоўскай мовы й кепска размаўлялі па расейску, а літоўскія дасьледчыкі, у свой чарод, ня ведалі ні польскай, ні беларускай мовы. Давялося мне, на просьбу Кудабы, прывезьці з Майшагалы некалькі здольных вучняў з 10-12 клясаў, якія й былі ў часе экспэдыцыі перакладчыкамі паміж студэнтамі-літоўцамі й мяйсцовым людам.

Мяне Чэслаў Кудаба папрасіў, каб я зрабіў картасхему ў. Белазарышкі. Калі паглядзеў на маю працу, сказаў: "Бачу, няма чаго цябе вучыць!" І я зрабіў для яго яшчэ два пляны Белазарышак і Антакальцаў, шмат зрабіў для яго фатаздымкаў, рысункаў. А Кудаба распавядаў мне пра свае нарачанскія мясьціны, пра людзей, як дайшоў да працы ва ўнівэрсытэце й дамогся навуковай славы. У краязнаўчай працы, як дазнаўся ад свайго суразмоўцы, адна з самых нялёгкіх – гэта моўная сытуацыя тутэйшага люду. Я падказаў яму, што ў нашым краі ўжо каторы год працуе навуковец з АН БССР Вячаслаў Вярэніч зь вялікай групай беларускіх студэнтаў. Іхная тэма – польскія гаворкі ў СССР. Улаштаваў я спатканьне Кудабы зь Вярэнічам. Яны неяк адразу пасябравалі. Кудаба папрасіў Вярэніча, каб той апісаў для яго моўную сытуацыю Дукштацкай гміны і украінскай энклявы. Потым Вярэніч, на запрашэньне Кудабы, распавядаў пра сваю працу на навуковай канфэрэнцыі ў Віленскім унівэрсытэце. Мне запомнілася, што Вярэніч на той канфэрэнцыі вельмі прасіў літоўскіх калегаў не фальшаваць гісторыі, пісаць усё так, як яно ёсьць у сапраўднасьці.

На жаль, напісаную Кудабам (з удзелам Вярэніча) манаграфію пра Дукшты і ўкраінскую энкляву яшчэ ў 70-х гг. недабрадзеі схавалі некуды ў сутарэньні Віленскага ўнівэрсытэту. А добра было-б, каб знайшоўся сьмелы чалавек, адшукаў у тых сутарэньнях "Манаграфію пра Дукшты" ды апублікаваў яе, як некалі знаны пісьменьнік Крашэўскі выдаў у 1871 г. у Дрэздэне кнігу К. Тышкевіча "Wilia i jej brzegi" ("Вяльля й ейныя берагі").

Урэзалася мне ў памяць і сустрэча з Ч. Кудабам у ліпені 1988 г. у в. Зубішкаў каля Ёнавы, дзе спынілася агромністая армія турыстаў-воднікаў (больш 1000 удзельнікаў!). Быў цудоўны летні дзень. Сталі каля нашай палаткі, дзяўчаты зь Беларусі, пара масквічоў, армянін, некалькі літоўцаў. Падыйшоў Ч. Кудаба ў турыстычным убраньні, паздароваўся й пачаў размаўляць са мной па-беларуску. Трохі счакаўшы, літовец Ёнас Карлонас запытаўся, на якой мове мы размаўляем? "Як на якой? На беларускай!" – адказаў Кудаба. "А адкуль Вы яе ведаеце?" – зьдзівіўся Карлонас. "Як адкуль? Я-ж нарадзіўся ў Кабыльніку, каля нарачанскіх азёраў. Там-жа так усе размаўляюць!"

Тая ноч над Вяльлёй была цёплая й спакойная, толькі вада булькацела сярод камянёў і карчоў. У траве, як лямпачкі, зеленкавата сьвяціліся сьветлякі. У бярэзьніку й ляшчыньніку выводзілі свае рулады салаўі. Мне памірсьцілася, што тое самае, праплываючы па Вяльлі, бачыў і чуў даўным-даўно кароль Уладыслаў Ягайла, а пазьней наш славуты зямляк К. Тышкевіч, які ад 28 траўня да 4 ліпеня 1857 г. рабіў вандроўку па Вяльлі. Цяпер я сядзеў на беразе ракі зь іншым, заканаху ў раку, ведамым краязнаўцам Чэславым Кудабам. А быў тады самы разгар гэтак званай "перастройкі" – пары сьветлых мараў і надзеяў на лепшае будучае. Чэслаў Кудаба кажа: "Юзаф! А навошта нам тыя Балгарыя й Гаваі? Няўжо ёсьць лепшыя мясьціны, як тут? Аднак калі паплывём далей па Нёмне, за Коўнам, убачыш, як завод "Азот" гноіць гэтую цудоўную прыроду. Вада ў Нёмне, як атрутны расол, выміраюць вёскі, жывёлы й лясы. Дрэвы ажно да Коўна пасохлі, плыве ад Грыгішак да Коўна, як балёны, атрута па рацэ ды рыба ўгару жыватамі, і ратунку ўжо просіць толькі ў Бога". Чэслаў задумаўся, потым прадоўжыў: "Ад вякоў кажуць, што ўсім, каб жыць, патрэбнае паветра. Гэта так. Але патрэбная яшчэ й свабода. Але й адной свабоды таксама мала. Да свабоды патрэбны яшчэ розум. Тады можа і ўсталюецца ў сьвеце сякая-такая гармонія".

Такая была мая апошняя сустрэча з Чэславам Кудабам.

**Юзаф Русакевіч**

## Віленскі цэнтар грамадзкага здароўя

дасьледаваў 500 вучняў школаў Вільні ўзросту ад 9 да 16 гадоў. Назіралі ня толькі за тым, што дзеці ядуць, але й за розьніцай у харчаваньні дзяцей з забясьпечаных сем'яў, сем'яў з малімі даходамі й сацыяльна падтрыманых сем'яў. Было выяўлена, што энэргітычную каштоўнасьць сутачнага рацыёну 41% навучэнцаў складаюць тлушчы, а бялкі – усяго 12%, тады як павінна быць якраз наадварот. Харчаваньне вучняў незбалянсаванае й няправільнае. Дзеці ядуць замнога салодкага й зусім мала клятчаткі. У суткі яны зьядаюць 102 г. гароднiны, а павінныя зьядаць у 4 разы болей. Падлеткам не хапае калёрыяў. Хлопчыкі-падлеткі з сацыяльна падтрыманых сем'яў атрымліваюць толькі 66% сутачнай энэргітычнай нормы, а падлеткі з сем'яў з малімі даходамі – усяго 30%. І самае нечаканае – у школе голад адчуваюць 39% навучэнцаў з нармальна забясьпечаных сем'яў і 37% – з сацыяльна падтрыманых. У бальшыні школаў порцыі ў сталоўках вельмі малыя, а іхная энэргітычная каштоўнасьць нізкая. Дасьледчыкі выявілі, што нармальны рост маюць 74% дзяцей, а 13% не дасягаюць нормы. Нізкі рост можа быць спадчынным, але часта ён бывае й з прычыны непаўнавартаснага харчаваньня й дрэнных сацыяльных умоваў. Паміж ростам дзіцяці й ягонымі разумовымі здольнасьцямі йснуе цесная сувязь. Калі запавольваецца рост, запавольваецца й разумовае развіцьцё. У Літве субсыдыяваныя дзяржавай абеды патрэбныя для 172 тыс. дзяцей (у сярэднім 2,6 літаў на аднаго дзіцяці ў дзень). На год неабходна 90 млн. літаў, аднак сёньня дзяржава вылучае толькі 60 млн., г. н., што амаль кожны трэці вучань застаецца галодны.

**Павал Саўчанка**

# Там, дзе мяне няма...



Перапахаваньне Йвана Луцкевіча на Росах. 1992 г.

**21. Пэрыяд актыўнай дзейнасьці "Сябрыны" й ТБК. Сьвяткаваньне 74-ай гадавіны абвешчаньня БНР. Перапахаваньне І. Луцкевіча.**

Першымі гадамі пасьля заснаваньня і „Сябрына", і ТБК вялі актыўную дзейнасьць. Сябрына налічвала 100 сяброў, ТБК – 75 (паводле сьпіаў з архіву Л. - Луцкевіча). Людзей старэйшага пакаленьня, вядомых дзеячоў яшчэ міжваеннага часу ўжо не было. Я. Шутовіч, А. Клімовіч, П. Сергіевіч, Н. І Я. Шнаркевічы ды інш. адыйшлі на вечны спачын. Зь вядомых у Вільні беларускіх сем'яў былі Ю. і Л. Луцкевічы, Л. Кароль, З. Каўшанка, В. Шостак, М. і Я. Станкевічы (дзеці Ст. Станкевіча – „Кнігара"). Зь Беларусі ў тым часе прыехалі маладыя, інтэлігентныя, адукаваныя людзі, якія ахвотна ўзяліся за беларускую працу: С. Дубавец, С. Харэўскі, С. Вітушка, Л. Плыгаўка, Ю. Шаўцоў, А. Мінкін, А. Аблажэй, К. Балаховіч, Т. Каротчанкава ды інш. Здавалася, нарэшце можна было перамагчы шматгадовую пасыўнасьць, паказаць, што й беларусы нешта могуць, што яны ня горшыя за іншыя нацыянальнасьці.

25 сакавіка 1992 г. адбылося вельмі ўрачыстае сьвяткаваньне 74-ай гадавіны абвешчаньня БНР. Заля Літоўскага драматычнага тэатру на пр. Гедыміна была перапоўненая. Сьвята пачалося выступленьнем У. Пузыні, каторы сыйграў на адроджаным ім народным інструмэнце сурме кароткую мэлёдыю. Са сцэны выступілі старшыня Вярхоўнай рады РБ С. Шушкевіч, старшыня Вярхоўнай рады ЛР В. Ландзбергіс, а ад беларускага грамадзтва Вільні Л. Луцкевіч. Пасьля ўрачыстай часткі акторы тэатру імя Я. Купалы паставілі п'есу „Тутэйшыя"... Цяпер ужо ня верыцца, што зусім яшчэ нядаўна на такім высокім узроўні адзначалася нашае галоўнае нацыянальнае сьвята.

У 1992 г., недзе вясною, прыяжджалі ў Вільню цяперашняя прэзыдэнт Рады БНР Івонка Сурвіла й ейны брат Лявон Шыманец. Яны затрымаліся ў нас. Л. Луцкевіч ведаў іхных бацькоў яшчэ з часоў нямецкай акупацыі з Баранавічаў, дзе ў той час быў дырэктарам мастацкай школы й выкладаў там беларускую мову й літаратуру.

Яшчэ ў 1990 г. „Сябрына" й ТБК зьвярнуліся да літоўскіх уладаў з просьбаю дазволіць сымбалічнае перапахаваньне выдатнага беларускага грамадзкага дзеяча, археоляга Івана Луцкевіча, які памёр у 1919 г. у польскім горадзе Закапане. Дазвол быў атрыманы, можна было выбраць мейсца на г. зв. Літэрацкай горцы, дзе ўжо былі магілы К. Сваяка й Л. Вітан-Дубейкаўскага. Беларусы зь Беласточчыны паклапаціліся, знайшлі мейсца пахаваньня І. Луцкевіча ў Закапане ды прывезьлі вурну зь зямлёю, узятай з магілы, у Вільню. Адбылося ўрачыстае перапахаваньне І. Луцкевіча й пачалася падрыхтоўка да стварэньня помніка братам І. і А. Луцкевічам – пачынальнікам беларускага адраджэньня. Старшыня ТБК Х. Нюнька дамовіўся з скульптарам А. Міроньчыкам аб працы над помнікам: дзьве стэлы зь белага мармуру з выявамі І. і А. Луцкевічаў падпіраюць крыж з чырвонага граніту. На абліцоўцы пастамэнту надпіс: „пачынальнікам адраджэньня". На стэле з выяваю Івана словы: „Іван, ты жывеш", – так, як хацела Юліяна Менке (Вітан-Дубейкаўская). Помнік атрымаўся прыгожы, хаця скульптары зь Беларусі былі незадаволеныя: яны ўважалі, што на помнік такім дзеячам, як Луцкевічы, варта было абвесьціць конкурс і выбраць найлепшы варыянт.

Быў яшчэ пастаўлены помнік драматургу Ф. Аляхновічу. Скульптар Э. Падбярэзкі стварыў цікавы вобраз: постаць драматурга з кніжкаю ў руцэ нібыта выхільваецца з пліты. Шкада, што Падбярэзкі выбраў у якасьці матар'ялу нейкую пластмасу й цяпер, усяго праз 10 гадоў, помнік пачынае рассыпацца. Але гэта нікому ня рупіць!



Надмагільны помнік братом Івану й Антону Луцкевічам на Росах.



На сьвяткаваньні Дня Волі. Зьлева направа: В. Ландзбергіс, С. Шушкевіч, Л. Луцкевіч. 25 сакавіка 1992 г.

Адкрыцьцё помніка І. і А. Луцкевічам адбылося 27 сакавіка 1993 г. Прыехалі прэзыдэнт Рады БНР Я. Сажыц, лідар БНФ З. Пазьняк, дырэктар беларускай службы радыё „Свабода" В. Станкевіч, а. Надсан, унучка Я. Коласа М. Міцкевіч, са сваякоў былі М. Чэпелева з Санкт-Пецярбургу й Багдан Андрусішын (Данчык), унук пляменьніцы Івана й Антона Яніны Кахановускай. Ад Літоўскага дэпартамэнту ў справах нацменшасьцяў была Г. Кабецкайтэ. Помнік асьвеньціў кс. Чарняўскі.

Вячка Станкевіч прыехаў неяк да нас і запрапанаваў Лявону быць карэспандэнтам ад Вільні беларускай службы радыё „Свабода". Лявон згадзіўся й пачаў штотыдзень перадаваць у Мюнхен (а пасьля ў Прагу) весткі зь Віленшчыны, „Вандроўкі па Вільні", „Партрэты віленчукоў".

Восень 1993-га была для нас дрэнная. Спачатку Лявон патрапіў у шпіталь з дыягназам „кардыяльная астма", а праз пару дзён і мяне забрала „хуткая" зь інфарктам. Лявон праз тыдзень вярнуўся, мяне трымалі даўжэй. Аднак жыцьцё працягвалася. Лявон рабіў свае радыёперадачы, пісаў артыкулы, арганізоўваў імпрэзы ў ТБК. Я аформіла г. зв. „рэнту", якую давалі выкладчыкам з навуковай ступеньню: я абараніла дысэртацыю ў 1963 г. і значыць мела ўжо немалы стаж, што й акрэсьліла велічыню „рэнты".

ТБК працавала досыць плённа, хаця маладзейшы паступова адыходзілі. На паседжаньнях Рады Таварыства разглядаліся розныя пытаньні: школьніцтва, друк, аднаўленьне музэю імя І. Луцкевіча, ушанаваньне памяці беларускіх дзеячоў мэмарыяльнымі таблічамі й пад. У 1994 г. былі пастаўленая табліцы Р. Шырму (прысутнічаў выконваючы абавязкі амбасадара Беларусі ў Літве У. Шчасны) і К. Каліноўскаму (прысутнічаў амбасадар Беларусі ў Літве Я. Вайтовіч). Табліцы былі на дзьвюх мовах, літоўскай і беларускай, з барэльефамі.

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**

 



# Шлях да Катынскага лесу

## крыху з асабістых успамінаў і перажываньняў

*Працяг са старонкі 1*

і таксама быць звольнены да хаты. Подпіс Цімашэнкі гарантаваў дэкляраванае.

Шчыра кажучы, ніхто з нас нават ні на момэнт не дапушчаў, што заміж свабоды, чакае нас, пасьля даўгое мартыралогіі, брацкая магіла ў Катынскім лесе, але сэрца кажнага шчымела дзіўною трывогай...

### Трывога

Але было ўжо запозна на разважаньні. 22-га верасьня вайсковыя ўлады падалі сваім падуладным умовы капітуляцыі. Аднак некаторыя з каманьдзераў досыць цьвяроза заглядалі на вартасьць бальшавіцкіх гарантыяў. Гэн. Янушаўціс, прыкладам, падаючы на сходзе да ведама сваіх каманьдзераў гэтыя ўмовы, проста сказаў: "Рабіце, як кажа вам вашае жаўнерскае сумленьне, але я – балшавіком ня веру!"

Шчыра кажучы, у глыбіні душы ня верыў ім і шмат хто з нас, але што можна было зьдзейсьніць у нашым лёсе? Нічога...

Трывога расла... Каля першае гадзіны пэўнага яснага сонечнага верасенскага дня каля тысячы афіцэраў сабраліся перад будынкам Львоўскага штабу корпусу. Доўга давялося нам чакаць на чырвоных дэлегатаў, так доўга, што міжволі ўсе пачалі неяк горка шкадаваць таго, што сталася. Натоўп гуў, як устрывожаны вулей... Восенскае сонца запаляла кволыя іскры на мэталёвых частках зброі, якая мелася быць за часіну аддадзеная таму, каго мы гадамі звыклі уважаць за небясьпечнага ворага. Глухі жаль поўніў сэрцы...

Польская моладзь, пераважна студэнты, змабілізаваныя ў армію, яшчэ больш распалялі агульны неспакой, закідаючы нам капітуляцыю перад бальшавікамі і заклікаючы ўзьняць супроць іх зброю, пакуль яна яшчэ ў нашым валоданьні... Але кажны з нас, апрача зброі, меў у руках і лістоўкі, дзе быў зьмешчаны загад аб капітуляцыі гэн. Лянгера, які наказваў нам падначаліцца ўсім паасобным пунктам умовы. "Адказнасьць за гэта перад Богам і гісторыяй я бяру на сябе!" – канчаў свой загад гэн. Лянгер.

І зброя не была ўзьнесеная, хоць невялічкая частка маладзейшых афіцэраў і крычэла пад вокнамі штабу: "Ганьба тым, хто прадаў Польшчу бальшавіком! Здрада!" Грукат бальшавіцкіх танкаў заглушыў іхныя маладыя ўсхваляваныя галасы...

### Госьці ў танках

Увага ўсіх зьвярнулася ў бок танкаў. Кажны чакаў, што з гэтых сталёвых машынаў выйдуць да нас узброеныя "джэнтэльмэны", якія з павагай прывітаюць тых, што дабраахвотна, на падставе ўзаемнае ўмовы, аддаліся пад іхную апеку. Але-ж якое было нашае расчараваньне, калі з расклакатаных танкаў пачалі з брыдкай лаянкай вылазіць карэлыя, усмоленыя чырвонаармейцы. Выгляд іхных грубых, напоўмангольскіх, нямытых і няголеных твараў пад бальшавіцкімі шаломамі з крываваю зоркаю наперадзе пераняў дзіўною жудою нашыя сэрцы. Чырвонаармейцы, скіраваўшы свае штыхі ў бок афіцэрскае групы, якая ў немым зьдзіўленьні глядзела на сваіх "апекуноў", зараўлі хрыпатамі галасамі: "Бросай оружие! Руки вверх!" І пачалі абкружаць нас, наступаючы з усіх бакоў.

Гэтак адбылося нашае першае знаёмства зь "непераможнай Чырвонаю..." Сьцяўшы зубы, з роспачай увваччу, пачалі мы кідаць зброю й адыходзіць зь недарэчна ўзьнятымі ўгару рукамі, на мейсца, паказанае нам штыхамі сталінскіх ваякаў. А вуліцы Львова запоўніліся тым часам морам жаўнерскіх галоваў, між якіх тут і там, як панурыя зласьвесныя здані, выцьвітыя сьлюоэты савецкіх танкаў. Гэта былі польскія жаўнеры, якія згодна з загадам гэн. Лянгера, выйшлі з абаронных пазыцыяў і аддалі зброю бальшавіком. Хваля гэтая ўсё расла й расла, усё плыла й плыла, і ўрэшце пацягнула з сабой і нас. Паплылі й мы...

### Адлучэньне "чыстых" ад "нячыстых"

Пры вылёце Лучакоўскае вуліцы стаяў шчытны ланцуг чырвонаармейцаў. Ён вылоўліваў із жаўнерскай масы афіцэраў. Не адзін із нас, ведама, мог сарваць зь сябе афіцэрскія адзнакі й зьліцца з жаўнерскаю масаю, некаторым жаўнеры нават і раілі так зрабіць. Але ніхто з нас на гэта ня важыўся, гонар афіцэрскі быў у нас мацнейшым за страх...

Кучка вылаўленых чырвонаармейцамі афіцэраў усё расла. Жаўнерская маса таксама ўсё плыла й плыла міма... Палітыкі аж ахрыплі ад крыку, стараючыся выклікаць сярод польскіх жаўнераў маніфэстацыю на карысьць чырвонае арміі. "Да здравствуют трудящиеся Польши!", "Долой империалистическую войну!", "По домам, товарищи!" – раўлі яны. Але як яны ня дзёрліся, лёзунгі іхныя не знайшлі аніякага водгуку ў жаўнерскай масе. Маўклівая й панура, зьвесіўшы галовы, плылі недабіткі польскай арміі залітымі восенскім сонцам вуліцамі Львова.

### Умова пачынае "выконвацца"

Пад вечар жаўнерская маса пачала радзець. Хутка на бруку засталася толькі грамада афіцэраў. Аб настроі гэтае грамады лепш не ўспамінаць. Відаць, заўважыла гэта й хітрае бальшавіцкае камандаваньне. Да сабраных падыйшоў ужо не гарэлы чырвонаармеец, але крыху чысьцейшы тып, здаецца, у чыне савецкага маёра, і сказаў, што з увагі на ваенны час аўтамашынаў, дэкляраваных нам капітуляцыйнай умовай, савецкае камандаваньне прыдзяліць ня мае магчымасьці й таму, на жаль, "спадары афіцэры" павінныя скіравацца у Тарнопаль, у штаб, разумеецца "тымчасам толькі пехатою". Пабачыўшы нашыя выцягнутыя міны, ён дадаў, што заўтра аўтамашыны будуць, дый у далейшым умова будзе цалкам датрыманая, усе, бясспрэчна, атрымаюць прыабяцаныя дакументы й будуць звольненыя. Дык "спадары афіцэры" могуць быць зусім спакойныя...

Так цяжка было ў нас на сэрцы, што проста, як дзецям, хацелася даверыць у словы гэтага савецкага прадстаўніка...

### Марш, марш...

Мы й паверылі... Крыху ў лепшым настроі, у таварystве "суцяшальніка"-маёра, выстраіўшыся ў маршавую калёну. Але ў далейшым, абкружаныя ўзброеным да зубоў канвоем чырвонаармейцаў, памаршыравалі мы на ўсход. Ды ўжо наступнаю раніцаю, разам із нашым каманьдзерам-маёрам, загінуў наш настрой... На месцы ветлівага маёра зьявіўся камісар, першы энкавэдысты, якога мы пабачылі й пазналі... Ён "заапекаваўся" намі на даўжэйшы час...

Разумеецца, ні на другі, ні на трэці дзень аўтамашынаў нам не далі, і мы пехатою адбылі нярадасную праходку на чыгуначную станцыю Красткікі, дзе нас запхнулі ў вагоны.

Гэтак быў недатрыманы ўжо першы пункт капітуляцыйнае ўмовы, нягледзячы на "аўтарытэт" самога Цімашэнкі, які падпісаў яе. Аднак у Тарнопаль мы ўсё-ж прыехалі, праўда, не аўтамашынамі, а чыгункай, але на гэта ўжо цяпер ніхто не зважаў. Дух у нас крыху ўзьняўся, і мы пачалі зноў верыць, што калі нас запраўды прывезьлі ў Штаб чырвонае арміі, дык хто ведае, можа яшчэ ўсё абернецца, як найлепей.

### Чакаць!..

У Тарнопалі на станцыі сустрэў нас вялізны натоўп, людзі зьнекуль даведаліся, што прыбывае транспарт польскіх афіцэраў, і пасьпяшаліся задэманстраваць нам сваю сымпатыю, вітаючы нас воклічамі й паднося́чы пад вагоны ежу й тытунь. Наш канвой апынуўся ў прыкрым палажэньні. Натоўп быў у такім настроі, што зусім не рэагаваў на крык чырвонаармейцаў, а страляць, зразумела, не выпадала. Справу разьвязалі проста... Наш паравоз даў працяглы сьвісток, цягнік рушыў зь месца, і гонар канвою быў уратаваны.

Мы паехалі ў кірунку Станіславова, але, не даехаўшы да яго, спыніліся на маленькай глухой станцыі сярод поля. Тут мы прастоілі колькі дзён. Усё новыя й новыя транспарты палонных афіцэраў далучаліся да нашае групы. І чым больш іх прыбывала, тым больш рос наш неспакой. Праўда, наш камісар супакойваў нас, запэўняючы, што "ві, безумоўна, будзеце звольненыя, толькі з чыста тэхнічных прычынаў гэтае звальненьне мо на колькі дзён зацягнецца", але мала хто яму ўжо верыў. Нашыя прадчуцьці збываліся.

На трэці дзень прыехаў да нас з Тарнопаля асабісты ад'ютант гэн. Лянгера й паведаміў, што Цімашэнка "ня важыцца" выканаць капітуляцыйнае ўмовы без апрабаты Варашылава. Быццам, каб прысьпешыць гэтую апрабату, Цімашэнка запрапанаваў гэн. Лянгеру самому ляцець самалётам у Маскву, каб асабіста паразумецца з Варашылавам. А мы павінныя цярпліва чакаць ягонага звароту з Масквы. "Няма ніякіх падставаў сумлявацца ў звальненьні, гаварыў нам ад'ютант. Бальшавікі ня дзеці, і подпіс Цімашэнкі нешта-ж значыць. Калі-ж-бы сталася інакш, і Варашылаў не апрабаваў умовы, дадаў ён, – дык гэн. Лянгер, вярнуўшыся з Масквы, далучыцца да сваіх афіцэраў і разьдзеліць зь імі лёс".

Мы пачалі чакаць, але ні апрабаты Варашылава, ні гэн. Лянгера не дачакаліся... Ці запраўды паляцеў ён у Маскву, ці быў проста арыштаваны НКВД, і які лёс спаткаў яго, ніхто з нас так і не даведаўся ніколі. Але чакалі мы на яго (прынамсі, мы думалі, што на яго) на нашай забытай Богам і людзьмі станцыі доўга... Нарэшце аднаго імглістага раньня зьявіўся да нас энкавэдысты і паведаміў, што ў Тарнопалі нас звольніць ня могуць, а звальненьне адбудзецца ў Валачыску, дзе быццам знаходзіцца спэцыяльны пункт для падзелу й вызваленьня палонных. Ужо звычайна, пехатою, па гразі – тлустай падольскай гразі – памаршыравалі мы ў Валачыск.

Тарнопаль сустракаў і праводзіў нас горача, як і Станіслаў... Закарэлыя, галодныя (за ўвесь гэты час бальшавікі ні разу яшчэ не далі нам нават скарынкі хлеба), паволі цягнуліся мы вуліцамі места, падганяныя канвоем. Людзі стараліся падыйсьці да нас, падаць нам есьці, падтрымаць нас на духу. Канвой адганяў іх. Яны прарываліся зноў. І гэтак – аж на далёкія прадмесьці...

*Працяг будзе*

# Мартыралёг Віленскага краю

112. Ландышка Франц Якаўлевіч, 1885 г., нар. в. Кеўлічы Віленскай губ., жыў у Туганскім р-не, член калгаса "Красный Октябрь". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
113. Лапідус Юрый Барысавіч, 1912 г., нар. г. Радашковічы (Вілейскага павета Віленскай губ.), жыў у г. Калпашава, кравец арцелі інвалідаў "Цветущий Север". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
114. Ласоўскі Іван Яўхімавіч, 1873 г., нар. в. Лашчукі (в. Лашукі Дунілавіцкай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у г. Томску, вартаўнік Сібгандлю. Арыштаваны ў 1936 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ.
115. Лашчук Сцяпан Іванавіч, 1868 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол., Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
116. Леановіч Ігнат Данілавіч, 1873 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол. Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
117. Леановіч Пётр Данілавіч, 1870 г., нар. в. Старыя Габы (Жаснянскай вол., Вілейскага павета) Віленскай губ., жыў у в. Гарадок Зыранскага р-на, не працаваў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
118. Лекарэвіч Клімент Іванавіч, 1897 г., нар. в. Ерэва Віленскай губ., жыў у в. Нікіфараўка, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
119. Лісоўскі Іван Лаўрэнцьевіч, 1880 г., нар. в. Узболет Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, афіцыянт рэстарана. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
120. Літвін Антон Лаўрэнцьевіч, 1881 г., нар. в. Грыневізна Віленскай губ., жыў у в. Майкава Крывашэінскага р-на, член калгаса. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
121. Літвін Карл Лаўрэнцьевіч, 1876 г., нар. в. Грыневізна Віленскай губ., жыў у пас. Маліnаўка, член калгаса "Красный Октябрь". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
122. Лужынскі Лука Міхайлавіч, , 1890 г., нар. в. Журовічы Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асіна, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
123. Лужыцкі Фёдар Міхайлавіч, 1890 г., нар. в. Журовічы Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асіна, упаўнаважаны Томскай міжрайканторы "Главптицепром". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
124. Лукашэвіч Браніслаў Іванавіч, 1886 г., нар. в. Юрацішкі Віленскай губ., жыў у пас. Верх-Карга Парабельскага р-на, член арцелі "Прогресс". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

*Працяг будзе*

 

*Уладзімір Крылоўскі*

# Золата й кроў Новых Алдаў

**Сьв. памяці Віктара Аляксеевіча Папкова**

5 лютага споўнілася чатыры гады з дня дзікага ваеннага злачынства расейскіх войскаў у пасёлку Новыя Алды у Чэчэніі...

На жаль, 5 лютага ў Расеі мала хто ўспомніў (ды, напэўна, мала хто, на жаль, і ведаў) пра тое, што гэта быў не зусім звычайны дзень. Споўнілася чацьвертая гадавіна страшэннага злачынства, якое зьдзейсьнілі фэдэральныя войскі ў чэчэнскім пасёлку Новыя Алды (прыгарад Грознага). У гэты дзень, 5 лютага 2000 г., сотня расейскіх вайскоўцаў (згодна сьведчаньняў ацалелых пасялкоўцаў – кантрактнікаў), бяз знакаў адрозьненьня й з тварамі, перапэцканымі для камуфляжу сажаю, увайшла ў пасёлак і прыступіла да мэтадычнага зьнішчэньня жыхароў, забіваючы іх у сваіх дамох і на вуліцы, і пакінуўшы пасьля сябе дзясяткі трупаў.

Не, гэта не былі нематываныя забойствы – фармальны матыў, зьнешняя падстава для расправы была. П'яныя, часта ледзьве стаячыя на нагах салдаты бяз сораму вымагалі ў пасялкоўцаў грошы. Калі грошай не было, цалкам прыдаваліся пярсьцёнкі, завушніцы, залатыя зубы... Калі не было й гэтага, чалавека забівалі...

Аднак быў і іншы, сапраўдны матыў найжорсткай расправы над жыхарамі Новых Алдаў. Падчас штурму Грознага пасёлак апынуўся ў тылу чэчэнскіх сілаў супраціву ў двух кілямэтрах ад іхных пазыцыяў, і, натуральна, баевікі не аднаго разу праходзілі праз яго, а калі, адступаючы, ім давялося пакінуць свае пазыцыі, некаторыя зь іх знайшлі сабе ў Новых Алдах нядоўгі прытулак. Напрацягу ўсяго сьнежня й студзеня фэдэралы бязьлітасна абстрэльвалі пасёлак зь цяжкіх гарматаў і бамбілі яго. Жыхары зь дзецьмі й старымі хаваліся ў падвалах, ажыцьцяўляючы рэдкія вылазкі да крыніцы з вадою... За два месяцы ў пасёлку зьявілася 75 сьвежых магілаў...

Але фэдэральнаму камандаваньню, у прыватнасьці генэралам У. Шаманаву, Г. Трошаву, В. Манілаву й, зразумела, адказнаму за ўсё, што тады адбывалася ў Чэчэніі, Камандуючаму Аб'яднанай групіроўкай войскаў В. Казанцаву гэтае здалося недастатковым. Калі 4 лютага ў пасёлку йшла праверка дакумантаў, салдаты, гартаючы пашпарты, гаварылі нейкія дзіўныя для пасялкоўцаў словы: «Сыходзьце! За намі ідуць зьвяры! У іх загад – забіваць!»

Назаўтра пачалася расправа.

* * *

«Многих убитых, вопреки исламской традиции, долго не хоронили, некоторых – до середины марта. Всё ждали, что приедет милиция и прокуратура, всё зафиксируют, запротоколируют, произведут необходимые следственные действия... Ждали напрасно: российские власти совсем не были заинтересованы в том, чтобы этот инцидент был расследован, а тем более получил огласку» *(«Новая газета» № 4 (647), 22-28 января 2001 г., с. 17, «Убийство или казнь?»)*

Але ўжо на чацьверты дзень у пасёлку зьявіўся дзіўнай зьнешнасьцю чалавек – даўгавалосы, у падрасьніку, з агромністай барадою. Праваслаўны паслушнік, ён-жа – вядомы міратворца й праваабаронца, супрацоўнік Маскоўскага "Мэмарыялу" Віктар Аляксеевіч Папкоў – прывёз у Новыя Алды кінаапаратура. Так нарадзіўся на сьвет фільм – дакумантальнае сьведчаньне пра адное з самых страшных злачынстваў расейскай ваеншчыны на чачэнскай зямлі. Цераз год, 18 красавіка 2001 г., Віктар Папкоў быў сьмяротна паранены ў Чэчэніі невядомым у масцы й 2 чэрвеня скончаўся ў адной з маскоўскіх лякарняў. Яго забілі ў тым ліку й праз гэты фільм.

* * *

*Ад рэдакцыі: Далей у артыкуле У. Крылоўскага пададзеныя шматлікія фрагмэнты гэтага вельмі выразнага сваім рэалізмам кінадакуманта – пакадравая запіс. Аднак мы пакінулі толькі жывыя галасы некаторых сьведкаў тых страшных падзеяў. Цалкам-жа артыкул У. Крылоўскага пад назвай «Ребята, не убивайте! У меня маленькие дети!» нашыя чытачы могуць пачытаць у рукамоўнай рубрыцы «Озимь» на сайце www.runbel.lt.*

– Когда из Алдов вышли боевики, старейшины собрались и пошли к русским. Там был такой полковник Лукашёв ... Мы объяснили, что в селе боевиков нет, можно заходить, а, если не верите, мы заложниками у вас останемся или впереди вас пойдём... 4 -го февраля прошла проверка паспортов, обычная проверка, а 5-го пришли другие федералы. Что было тут! Не передать! Солдаты – пьяные! Обкуренные! По нашим данным, 84 человека убито, среди них – женщины, старики, дети! Убиты в домах, в подвалах, на улице! Убиты только за то, что у них не хватило денег откупиться!

– Потом русские подожгли дом, а перед этим забрали все вещи...

– Его увели куда-то. И другого увели. Куда?!.. Потом оказалось, их повели по домам – где они жили. С них требовали деньги, золото, серебро... Всё, что есть, нужно было отдать! Один у отца взял деньги, сколько было, и они повели его назад. Не довели: по дороге расстреляли! Мы точно знаем место, где его расстреляли.

Второй жил подальше. Жена вытащила всё, что было – деньги, золото. Всё это отдала, а он им под ноги стрелял и приговаривал: «Ещё не дашь – застрелю!» Как-то они всё-таки все живы остались. Видно счастье им выпало...

– Этих троих они на месте уложили. Выбили им золотые зубы... Потом пришли к нам.

Поставили нас четверых – муж, сын, я, внучка вот здесь рядом со мной стояла, и говорят: «Три минуты вам! Если не дадите!..»... Матюками! Что хотели, говорили! Человеческим языком не разговаривали! От них водкой воняло до невозможности! До того были пьяные, что еле на ногах стояли!

Солдат сказал мужу: «Дед! Давай деньги, доллары, всё, что есть – быстро!!» Муж вытащил миллион с лишним – у него было приготовлено – и отдал. А солдат, когда считал их, говорит: «Дед! Если ещё не дашь, я тебя застрелю!» Нецензурно так выразился на старого человека.

И вот он так считал, считал деньги, а потом на меня: «А ты бабка, такая, сякая!..» Я так не могу говорить, как он нас всех оскорблял. «Золотые зубы сейчас выбью, и тебе – хана!» – ну по-русски, опять нецензурно так. Я ему говорю: «Сынок! У меня это протез! – вытащила его. – Это простые зубы. Забери!» А он: «Спрячь, такая-сякая!» – и я его вставила обратно.

А потом он на сына: «А тебе, такой ты сякой! Я в глаз сейчас стрельну и убью! Ты похож на боевика!»

Мой сын никогда боевиком не был! По нашей улице вообще не было боевиков! Ни на первой войне, ни на этой войне с нашей улицы ни один молодой человек воевать не пошёл.

Мы – бедные люди. Богатые все уехали. А мы без ничего: ни еды, ни питья, ни жилья, ничего не осталось. Жильё разбили! Самолёты – бомбами! Солдаты – пушками, пулемётами били нас! Убивали! Мы в подвалах сидели голодные, холодные, есть нечего было. Еле-еле пережили всё это. И вот теперь... Я вытащила серьги, внучка вытащила свои серьги, и отдали ему. Я говорю: «Сынок! На, пожалуйста, забери это! Оставь нас в живых!»

А он опять на сына: «Тебя сейчас в глаз застрелю!» Тогда отец говорит: «Сынок! У него шестеро детей! Маленьких! Не убивай его: он у меня один!» А он всё угрожал: «Если ещё хоть один грамм золота не дадите, всех расстреляю!» У сына были зубы – коронки, он удалил их. Внучка пошла домой, принесла эти четыре коронки. Только тогда он сказал (матом): «Ладно! Все в дом! Если из дома выйдите, всех расстреляю!» Повернулся и ушёл! А пьяный был! Еле вышел из нашего двора! Еле вышел!

– Они так ждали, этот день, когда придут федералы и скажут: «Войны больше нет!..» Когда убивать не будут, и будет всё свободно! Русские зашли, приказали нам всем выйти, обзывали грязными словами... ...Они *(плачет)* – с автоматами, с гранатами!.. Запугивали!.. Забрали золото, деньги – всё, что было!

А этот старик... Люди видели. Его обещали оставить в живых. А когда он отдал последнюю копейку, его застрелили: «Старик! Ты тоже боевик!» Говорили, он их так просил, умолял: «Ну что Вы делаете, ребята!?»

– Сколько лет ему?

– Лет 76, под восемьдесят. Полрожка пуль выпустили в него. Сняли зубы золотые...

– Изо рта золотые зубы вытащили... Что дома было – деньги, всё... Вообще, что могли унести, унесли! Мародёрничали!

– У этой женщины, я знаю, было.. Ну как женщины хранят... драгоценности! Они их вытащили! Они везде и всюду у них лазили! Не стеснялись! Обшмонали их вдоль и поперёк!..

– Золотые зубы вытаскивали! У этой женищины были золотые зубы. Нету их! Вырвали! И не кто-нибудь, а именно они! Старик лежал, сосед мой. Другой старик! Они вот так в ряд лежали! У них тоже вырвали зубы!

– Джамбеков Ваха. Страшно издевались над ним! Деньги просили, золото просили!.. Он – нищий человек! За то, что у него не было денег и золота, его и расстреляли!

– Это всё – солдаты! Они заминировали магазинчик! Всё, что там было – забрали. Вот на дверях – лимонка! А внутри висит другая лимонка! И таких лимонок очень много: на дверях, на воротах! Поставили растяжки и ушли. А ведь здесь боевиков нет, на кого же эти лимонки поставлены?!..

– Грабить! Грабить начали! Поджигать дома! Снимали с женщин золото, драгоценности, всё, что могли! Требовали деньги! Забирали женщин! В Ханкалу забирали или куда, не знаю. Насиловали! Некоторых убили. Пятерых или десятерых, не знаю, задержали! Что с ними мы не знаем...

– ОМОН или МОМОН я не знаю. Намёники! С лисами на голове на шлемах! Это страшное зрелище было! С женщин снимали всё, что могли снять, всё что могли взять!

А потом через день после убийства, когда лежали трупы в домах, приехал «Урал». Я услышала, думала БТР, оказалась машина! Грузовая. Оказывается, они в тот день собрали вещи и спрятали их где-то, а на другой день приехали забрать их! Переступили через четыре трупа в этом доме и забрали всё, что могли! Это не люди, а звери! Они приходили убивать!

– Я не знаю, когда и как кончится эта война и сколько жертв будет ещё принесено на алтарь президентства Путина. Знаю только, что после всех этих ужасов я не смогу с уважением относится к русским. Вряд ли мы теперь уживёмся с ними в одном государстве!

* * *

Але гаворка пра тое, што тыя, хто аддаваў загад на расправу над новаалдынцамі, зусім і не зьбіраюцца «ужывацца» з чэчэнцамі ў адной дзяржаве. Не, гаворка йдзе не пра тое, каб Чэчэнская Рэспубліка Ічкерыя , нарэшце, пасьля трохсот гадоў барацьбы, атрымае незалежнасьць. Проста тыя, хто аддаваў загад, усур'ёз разьлічваюць на тое, што ў выніку «антытэрарыстычнай апэрацыі» чэчэнцы, як народ, перастануць існаваць. Галоўнае – парушыць у іх генафонд: народ невялікі – ня хутка ачомаецца! Дзеля гэтага ёсьць фільтрацыйныя лягеры! Чэчэнскіх мужчынаў (а ўсе яны, паводле задумы Масквы, ужо пабывалі там або патрапяць туды у выніку «зачыстак») там або зьнішчаць, або пакалечаць, а апроч таго зробяць нядзетароднымі. Пажылыя людзі, ня вытрымаўшы пякельнай напружанасьці, якi ствараецца карным акупацыйным рэжымам, хутка адыйдуць у сьвет іншы. Тое самае й зь нямаўлятамі: стрэсавыя для матак цяжарнасьць і роды, нястача дзіцячага харчу, антысанітарыя, адсутнасьць мэдычнай дапамогі. Жанчыны? Яны, як вядома, без паўнавартасных мужчынаў ражаць ня могуць. Дзеці? Калі яны яшчэ павырастаюць! Будзе час вырашыць, што зь імі рабіць. (А пакуль што яны ўжо прапусьцілі некалькі гадоў школы, і вельмі нешматлікія зь іх атрымаюць паўнавартасную адукацыю, а агульна вядома, што неадукаванымі людзьмі лягчэй кіраваць!) Тыя хто за мяжою – не вярнуцца! А вярнуцца – зь імі разьбяруцца, як мае быць! Тыя, хто ў Расеі – абрусеюць ды асымілююцца!.. Дык зь якім-жа такім чэчэнскім народам давядзецца «ўжывацца» у адной дзяржаве?

Тое, што было зробленае з чэчэнцамі ў Новых Алдах, было скіраванае не на новаалдынцаў. Гэта было адрасаванае ўсяму чэчэнскаму народу. Чэчэнцаў хацелі псыхалягічна зламаць, расьцісьнуць, незваротна траўмаваць, увачавідкі паказаць ім, што калі яны не адмовяцца ад ідэі незалежнасьці, дык будуць жорстка зьмецены з твару зямлі без усялякіх правілаў і ўмоваў. Бо тое, што было зробленае ў Новых Алдах – не прабачаецца. Такое назаўсёды адбіваецца ў памяці народнай. Як-жа гэтага можна не баяцца? А вельмі проста: каб гэтае засталося ў народнай памяці, трэба, як мінімум, каб існавалі самы народ. Чэчэнцам у Новых Алдах хацелі прадэманстраваць, што іх, як народу, лічы, ужо няма: яны будуць або зьнішчаныя, або згодзяцца на жыцьцё на каленях. А ў рабоў – якая «народная памяць»?

# Ідэалёгія сацыяльнай гармоніі як альтэрнатыва дзяржаўнаму папулізму

Камунізм – права кожнага на чужую ўласнасьць – быў дарагой спробай для ўсёй сусьветнай супольнасьці прыдаць папулізму навуковую форму. Выкарыстоўваючы фундамэнтальны закон прыбытачнага кошту, была створаная "тэорыя клясавай барацьбы", і, як вынік, абвешчаны "прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму". Гэтыя два асноватворныя тэарэтычныя вымыслы камунізму сталіся тэарэтычнай базаю камуністычнай ідэалёгіі, якая, на вялікі жаль,ператварылася ў вядучую ідэалёгію ХХ ст. Яна зрабілася найвышэйшым дасягненьнем папулізму – палітычнай плыні, якая апелюе "проста да народу", прапаведваючы прыярытэт «волі народу», і якая характарызуецца імкненьнем лідэраў да простых кантактаў з масамі праз выкарстаньне палітычных інстытутаў як сродкаў, каторыя павялічваюць узьдзеяньне волі лідэраў на масы. Камуністычная ідэалёгія зрабілася пануючай на 1/6 частцы плянэты і, прапаведваючы зьнішчэньне прыватнай уласнасьці, адкрыла шлюзы самым ганебным, разбуральным чалавечым інстынктам. Яна направіла энэргію народных масаў на разбурэньне сям'і й больш за 200 нацыяў і народнасьцяў вялікай савецкай імпэрыі. Потым гэтыя працэсы былі перанесеныя на ўвесь сацыялістычны лягер і аказалі разбуральнае ўзьдзеяньне на ўвесь сьвет.

Фундамэнтальныя ячэйкі цывілізацыі (сям'я і нацыя) былі найбольш небясьпечнымі ворагамі камуністычнай ідэалёгіі, таму што яны былі магутнымі ўласьнікамі й, абараняючы свае натуральныя функцыі, безкампрамісна змагаліся супраць люмпэнізацыі шматмільённых масаў. Бальшавіцкая тыранія, узброеная папулісцкім лёзунгам "Марксісцка – ленінская тэорыя непераможная, бо яна правільная", бязьлітасна зьнішчала дзясяткі мільёнаў сваіх грамадзянаў і стварала «адзіны савецкі народ» – народ-люмпэн, як неабходную ўмову свайго безкантрольнага панаваньня. Але парушэньне *фундамэнтальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі* выклікала такія нутраныя разбуральныя сілы, што пад іхным напорам імпэрыя зла развалілася, і на ейнай тэрыторыі ўтварылася 15 новых дзяржаваў. Былыя рэгіянальныя эліты, натуральна, робяцца пануючымі элітамі новых дзяржаваў.

На жаль, з прычыны аб'ектыўных гістарычных умоваў, беларуская інтэлігенцыя, пануючая эліта аказаліся глыбока дэнацыяналізаванымі й не гатовымі да выкананьня сваіх пазытыўных грамадзянскіх і дзяржаўных функцыяў. Нашая палітычная эліта пабудавала стратэгію абароны свайго панаваньня, выкарыстоўваючы імпэрскія амбіцыі Расеі й разьлічваючы на ейную дапамогу. Дзеля гэтага трэба было максымальна замарозіць сьвядомасьць шырокай грамадзкасьці. Камуністычная ідэалёгія (ідэалёгія папулізму) сябе цалкам дэскрэдытавала. Патрэбная была новая форма падману народу, і яна была прапанаваная ў выглядзе прымітыўнага папулісцкага лёзунгу, разьлічанага на палітычна неадукаванасьць народу: «Дэідэалягізацыя грамадзтва – аснова ягонай кансалідацыі!» Адначасова з посьпехам вырашаліся дзьве задачы: па-першае, камуністычная ідэалёгія і ейны носьбіт (пануючая камуністычная эліта) выводзіліся з-пад крытыкі; па-другое, актыўна кансэрвавалася палітычная неадукаванасьць народу.

Лёзунг гэты пасьпяхова выконваў свае функцыі напрацягу чатырох гадоў. Правячы рэжым дробнымі палітычнымі ўступкамі пралетарыяту ўпэўнена захоўваў у сваіх руках усе галіны ўлады і з дапамогай імпэрскай эліты Расеі рыхтаваў глебу для ўзмацненьня свайго становішча. Першыя прэзыдэнцкія выбары, як і разьлічваў рэжым, прывялі да ўлады лідэра камуначынавецтва. З гэтага моманту пачынаецца этап шырокамаштабнага наступленьня правячай эліты на правы й свабоды беларускага народу. Правячы рэжым ужо не задавальняе вышэй азначаны палітычны лёзунг. Ён выканаў сваю задачу. У перадвыбарчую прагграму прэзыдэнта мэтанакіравана закладваецца канцэпцыя зьнішчэньня апазыцыі й вяртаньня да камуначынавецкай дыктатуры. Адкрыта абвешчваецца лёзунг вульгарнага папулізму: «Улада народная, а не партыйная!» Лёзунг робіцца настольным дапаможнікам для вэртыкалі ўлады ў справе ўдушэньня палітычных партыяў, зьнішчэньня й выцясненьня за мяжу сілаў апазыцыі.

Падрыхтоўка, правядзеньне й вынікі другіх прэзыдэнцкіх выбараў паказалі, а выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў поўнамаштабна падцьвердзілі, што апазыцыя ўжо здратавана. Правячы рэжым стварыў усе ўмовы свайй нутраной бясьпекі, а сусьветная супольнасьць, незважаючы на татальнае парушэньне рэжымам канстытуцыйных правоў і свабодаў чалавека ў краіне, гарантавала яму зьнешнюю бясьпеку. У такіх умовах пачынаецца трэці, завяршаючы этап пабудовы ў Беларусі алігархачынавецкай тыраніі ў пачатку ХХІ ст. – за 12 гадоў камуначынавецкая тыранія трансфармавалася ў алігархачынавецкую тыранію нуворышаў. Хуткімі тэмпамі ствараецца ідэалягічнае забясьпечаньне рэжыму. Падмурак ідэалягічнага забясьпечаньня агучваецца ў дакладзе: «Моцная квітнеючая Беларусь павінная мець моцны ідэалягічны падмурак!» ("Советская Белоруссия", 28.03.03.) З належнай павагай трэба паставіцца да распрацоўшчыкаў дакладу. Канкрэтна й вобразна ў дакладзе абгрунтаванае значэньне ідэалёгіі (сьветапогляду) для чалавека, для дзяржавы, для іхнага разьвіцьця ды гарманічнага ўзаемадзеяньня. Праўда, ужо даўно чалавецтва сфармулявала гэта больш проста й зразумела: «Любыя дзеяньні чалавека без ідэі разбуральныя, але яны яшчэ больш разбуральныя, калі чалавек узброены памылковай ідэалёгіяй». Таму фармаваньне дзяржаўнай ідэалёгіі мае велізарнае палітычнае значэньне як на ўнутраным, так і на міжнародным узроўнях. Пераважная большасьць краінаў, нават з даўнімі дэмакратычнымі традыцыямі, стараюцца абыходзіць гэтую праблему. Палітычныя эліты гэтых краінаў разумеюць існаваньне глябальных ідэалягічных праблемаў сучаснасьці. А ў Беларусі палітычная эліта, якая кагадзе прапагандавала дэідэалягізацыю грамадзтва, цяпер, у парушэньне артыкулу 4 Канстытуцыі, прапануе грамадзянам краіны дзяржаўную ідэалёгію. Ейная канцэптуальная сутнасьць: «Здольнасьць працаваць ня толькі дзеля нажывы, але й дзеля дабрабыту грамадзтва, калектыву, іншых людзей». Гэты вульгарны папулізм не прэтэндуе на навуковасьць, затое да бясконцасьці пашырае магчымасьці дэмагогіі.

Трагічна, але Беларусь страціла 12 гадоў сваёй незалежнасьці, каб перайсьці ад навукападобнай ідэалёгіі папулізму (права кожнага на чужую ўласнасьць) да ідэалёгіі вульгарнага папулізму на аснове прыватнай уласнасьці (права алігархачынавецкай намэнклятуры на чужую ўласнасьць). Ідэалёгія замацоўвае амаральны прынцып, калі на пытаньне «Адкуль у вас багацьці?» можна пачуць зьдзеклівае: «А хіба дрэнна быць багатым?» Нуворышы адчуваюць сябе ў цалкавітай бясьпецы, безкантрольнымі ўладарамі краіны. Тэарэтычнай базай гэтай ідэалёгіі зрабіўся міт пра камуністычныя ідэі.

Цытата дакладу (СБ.28.03.03): «Яны (камуністычныя ідэі – *заўв. рэд.*) будуць жыць, пакуль жыве чалавек, таму што ў іх аснове – імкненьне да роўнасьці й сацыяльнай справядлівасьці...З камуністычным сьветапоглядам нашая краіна пражыла амаль усё ХХ ст. З гэтай ідэалёгіяй былі атрыманыя вялікія перамогі – над беднасьцю, непісьменнасьцю й нацызмам. Зь ёй мы першымі праклалі дарогу ў космас». Цытата ўяўляе клясычны прыклад міту аб камуністычным «раі». Тут ёсьць усё, што павінен мець клясычны міт: апавяданьне пра вялікую мінуўшчыну, зь якой выводзіцца цудоўнае цяперашняе й будучае.

Трэба аднак засмуціць стваральнікаў дакладу. Імкненьне да роўнасьці й сацыяльнай справядлівасьці зарадзілася разам са зьяўленьнем чалавека. Цікавасьць да гэтых чалавечых каштоўнасьцяў узрастала з разьвіцьцём цывілізацыі. Ужо Плятон у чацьвертым стагодзьдзі да н. э. спрабаваў рэалізаваць іх на практыцы ў Сіракузах. Аднак падобныя камуністычныя ідэі прапанавалі толькі бязьлітасны спосаб дасягненьня роўнасьці й сацыяльнай справядлівасьці шляхам зьнішчэньня ўласьнікаў, г. зн. адной з трох сацыяльных групаў кожнай нацыі. Гэта прывяло да вялікіх разбурэньняў, гібелі ды пакутаў сотняў мільёнаў людзей, да духоўнай дэградацыі ўсёй цывілізацыі. З гэткай ідэалёгіяй Беларусь ня зробіцца "квітнеючай", ня стане духоўным цэнтрам Эўропы, а будзе даваць свайго тэрарызму. Ідэалёгія папулізму ва ўсялякім выглядзе зьяўляецца ідэалёгіяй тыраніі ў розных формах ейнага праяўленьня, крыніцай сьвядомага падману грамадзтва, дэградацыі й разбурэньня соцыюму.

Алігархачынавецкая тыранія, як і іншыя ейныя формы, больш за ўсё баіцца палітычнай адукаванасьці людзей, вучоных, арганізаванасьці народных масаў. Два прыклады:

1. Фама Аквінскі (1226 – 1275) у сваіх разважаньнях "Як зьберагчы тыранію" канстатаваў: «Неабходна пазбавіцца ад знаючых і вучоных людзей, таму што яны, дзякуючы сваім ведам, могуць знайсьці сродкі зьнішчыць тыранію». Цытата з вышэй спамянёнага дакладу: «... рэктарам ВНУ зь ліку «сьвядомых», ня згодны, спакойна напішыце заяву, не ўказваючы прычыны... калі ты не ўспрымаеш ідэі, якія дэкляруюцца ўладай, Прэзыдэнтам, ня йдзі працаваць у дзяржаўную ВНУ...» Правячая эліта для захаваньня свайго панаваньня няўхільна выконвае парады Ф. Аквінскага. Прафесарска-выкладчыцкі кантынгент жорстка папярэджаны пра магчымасьць страты працы паводле палітычных матываў. Адначасова павялічваючы нагрузку працаўнікам ВНУ, і, тым самым, пагаршаючы ўмовы іхнай працы й дабрабыту, мэтанакіравана йдзе разбурэньне інтэлектуальнага патэнцыялу краіны.

2. Цытата з дакладу: «Адзінства нашага грамадзтва цэментуецца ўзаемадзеяньнем трох асноўных грамадзкіх сілаў. Нашае грамадзтва абапіраецца на нядаўна выбраныя Саветы дэпутатаў, прафсаюзы й маладзёвую вялікую арганізацыю й ейных саюзьнікаў». Чалавецтва ўжо даўно знайшло мэханізм, як прымусіць уладу добрасумленна служыць народу. Гэтым мэханізмам зьяўляюцца *палітычныя партыі*. Яны зацікаўленыя ў павышэньні палітычнай адукацыі народных масаў, іхнай сацыяльнай ды палітычнай актыўнасьці. Толькі *шматпартыйная палітычная сыстэма* можа забясьпечыць дэмакратыю ў краіне, і, такім чынам, ейны росквіт. Імкненьне замяніць партыі прафсаюзамі – гэта нічым не прыкрытае імкненьне да палітычнай дэзарганізацыі грамадзянаў краіны, імкненьне пануючай эліты зьберагчы сваё панаваньне за кожную цану, ігнаруючы інтарэсы народу.

Стваральная ідэалёгія сучаснай дзяржавы (сыстэма погядаў, ідэяў, сьветапогляд) павінная фармавацца на навейшых дасягненьнях навукі, абапірацца на гістарычны вопыт разьвіцьця цывілізацыі, улічваць канкрэтныя ўмовы жыцьцядзейнасьці асобнай дзяржавы, гістарычны вопыт канкрэтнага народу. Кіруючыся гэтымі палажэньнямі Беларуская рэспубліканская партыя (спыніла сваю дзейнасьць у 2000 г. у адпаведнасьці з пастановай Вярхоўнага Суду РБ) правяла глыбокія навуковыя даследаваньні, на выснове якіх была сфармуляваная *ідэалёгія сацыяльнай гармоніі*. Гэтая ідэалёгія прапануецца ў якасьці альтэрнатыўнай дзяржаўнай ідэалёгіі й выносіцца на абмеркаваньне палітычнымі партыямі, грамадзкімі арганізацыямі, шырокай грамадзкасьцю, усімі грамадзянамі, якія хочаць сваёй асабістай працай стварыць матэр'яльны дабрабыт і духоўны камфорт у сваіх сем'ях, росквіт дзяржавы, мірнае і раўнапраўнае разьвіцьцё міжнародных адносінаў. Распрацаваная намі ідэалёгія грунтуецца на чатырох пастулятах і трох фундамэнтальных законах, якія зьяўляюцца прыватнымі выпадкамі *фундаментальнага прынцыпу самаарганізацыі матэрыі* (сынэргічнага прынцыпу) й поўнамаштабна характарызуюць разьвіцьцё соцыюму. А чатыры пастуляты сынтэзуюць гістарычны вопыт разьвіцьця цывілізацыі, выяўляюць абагульняючы прынцып міжнародных зносінаў, які садзейнічае росквіту, устойліваму разьвіцьцю ўсяго чалавецтва.

Першы закон, *біялягічны закон (тэарэма Фішара)*, канкрэтызуе ролю нацыі, ейнае мейсца ў соцыюме й дзяржаве.

Другі закон, *закон энэргітычнай неэфектыўнасьці вялікіх дзяржаў*, пераканаўча тлумачыць гістарычную заканамернасьць распаду імпэрыяў і хуткі рост колькасьці дзяржаваў на плянэце ў другой палове ХХ ст.

Трэці закон, *тэорыя сацыяльнай гармоніі*, паказвае, што патанцыяльныя магчымасьці разьвіцьця грамадзтва наўпрост прапарцыянальныя колькасьці нацыянальна сьвядомых грамадзянаў і адваротна прапарцыянальныя колькасьці дэнацыяналізаваных грамадзянаў краіны. Калі гэты пакашчык меншы за адзінку, ідзе дэградацыя грамадзтва. З ростам дэнацыяналізацыі грамадзтва ягонае дэградацыя паскараецца. Сутнасьць ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі ў канцэнтраваным выглядзе адлюстроўваецца чатырма простымі прынцыповымі палажэньнямі, якія даступныя разуменьню шырокіх слаёў грамадзкасьці й ахопліваюць фундамэнтальныя праблемы, рашэньне якіх забясьпечвае ўстойлівае разьвіцьцё соцыюму:

1. **Сям'я** – базавае зьвяно нацыі, носьбіт і ўзнаўляльнік генафонду нацыі, выхавальнік падрастаючага пакаленьня, галоўны захавальнік і спажывец нацыянальных багацьцяў.

2. **Нацыя** – базавая ячэйка тэхналягічнай цывілізацыі, ейны падмурак, разбурэньне якога вядзе да дэградацыі й разбурэньня цывілізацыі.

3. **Гарманічнае разьвіцьцё нацыі** магчымае толькі пад кіраўніцтвам сацыяльнай групы ўласнікаў (не чыноўнікаў!) ва ўмовах жорсткіх антыманапольных законаў.

4. **Раўнапраўны саюз свабодных нацыяў** (ні ў якім разе не дзяржава народаў!), які грунтуецца на тэхналягічнай інтэграцыі (не каляніязацыі, не асыміляцыі, не экспансіі!), кладзе канец ваенным канфліктам, зьяўляецца асновай новага ўзроўню разьвіцьця цывілізацыі.

Прапанаваная ідэалёгія забясьпечвае інтарэсы ўсяго чалавецтва, асобнай нацыі, кожнага чалавека. Гэтая ідэалёгія на аснове навейшых дасягненьняў навукі сынтэзуе, інтэгруе каштоўнасьці розных ідэалёгіяў у агульную сыстэму пазытыўных ідэяў. Яна ліквідуе аснову міжнацыянальных канфліктаў, пераводзіць вырашэньне іншых канфліктных сытуацыяў у мірнае рэчышча. Яна ёсьць ключ да выхаду цывілізацыі з катастрафічнага стану, вырашае прынцыповую задачу зьберажэньня эвалюцыі разьвіцьця грамадзтва, ягонай генэтычнай разнастайнасьці, што вызначае жывучасьць цывілізацыі.

Чатыры вышэй прыведзеныя пастуляты складаюць падмурак новага сьветапогляду, новую канцэпцыю чалавечага разьвіцьця, якая прадухіляе тупіковы шлях разьвіцьця грамадзтва – шлях самазьнішчэньня. Яны аб'ектыўна кансалідуюць усе сацыяльныя слаі грамадзтва, адкрываюць шлях стваральным працэсам з выкарыстаньнем шматвекавога вопыту, багацьцяў кожнай нацыі, фармуюць у людзей гаспадарчыя, ашчадныя адносіны да сваёй зямлі, стымулююць здаровы лад жыцьця на падставе нацыянальных традыцыяў, рост духоўнага патэнцыялу й ягонае гаючае ўзьдзеяньне на гарманічнае разьвіцьцё кожнай краіны.

Канцэпцыя сацыяльнай гармоніі можа рэалізоўвацца толькі пры прадстаўленьні ўсёй інфармацыйнай прасторы краіны для актыўнай дзейнасьці палітычных партыяў самай разнастайнай арыентацыі, каб максымальна забясьпечыць гарантыі разьвіцьця грамадзтва ў рамках законаў прыроды.

*P. S. Падрабязна фундаментальныя пытаньні ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі разгледжаныя аўтарам у манаграфіі «Нацыя: шлях да сацыяльнай гармоніі» ды іншых працах, разьмешчаных на сайце www.socium.by.ru*

**Валеры Арцішэўскі**

# Нататкі з падпольля

### 11. Астралягічны прагноз

Шаноўныя беларусы! У бліжэйшы час вас чакаюць самыя неверагодныя прыгоды й нечаканкі. Пад уплывам уладных “зорак”, якія вельмі падобныя да каравякоў, вы будзеце паскальзвацца, валіцца, трапляць у непрыемнасьці й напаўняць ідэалягічнай адрыжкай паветра Эўропы. Упершыню ў кнігу Гінэса трапіць беларус, які здолее напрацягу сямі гадоў вадзіць людзей вакол пальца, прымушаючы іх верыць у тое, штј ён вядзе іх “сваім асаблівым шляхам разьвіцьця”. Сэнс усіх дэкрэтаў і пастановаў будзе зводзіцца да вельмі кароткага, але трапнага выразу “Цыц пад лаўку!” Спн. Дзяржава й надалей будзе класьці пад сябе народ гарызантальна, бо, у адпаведнасьці з законам прыроды, людзей у такой паставе вельмі лёгка скарыстоўваць. Самым радасным сьвятам землякоў застанецца па-ранейшаму дзень незалежнасьці іхных страўнікаў ад сытых абяцанкаў кіраўніцтва. Мозгі беларусаў будуць свабодныя ад думак, дзякуючы айчынным тэле й радыёперадачам зь іхнімі ненажэрнымі “чайкамі”, надта пявучымі “драздамі” й тупагаловымі “дзятламі”. За вялікаю колькасьцю тых птушак вы ня ўбачыце неба, а тое, чым яны гадзяць, перашкодзіць і сёлета дабрацца да цывілізаванага сьвету, які знаходзіцца на адлегласьці выцягутай рукі. Ва ўсіх ВНУ краіны, загадам зьверху, будзе выкладацца новы прадмет, каторы гучаньнем нагадвае аўтара задумы – ідыёталёгія. Акрамя ўжо існуючых, на вас зваляцца новыя віды падаткаў. Вы будзеце плаціць за сьнег, дождж, навальніцу, град, паветра й дым, які йдзе з комінаў. Сёлета будзе праведзены перапіс калярадзкіх жукоў на сотках грамадзянаў. Кожны жук будзе залічаны ў склад рабочай сілы, якая дапамагае зьбіраць ураджай. А кожны гаспадар будзе плаціць падатак за сваіх жукоў згодна пункту чарговага Дэкрэту “Выкарыстаньне дадатковай рабочай сілы звыш трох адзінак”. Да таго-ж, перапіс жукоў павялічыць колькасьць насельніцтва нашай краіны да мільярда галоваў, і мы, нарэшце, па-сапраўднаму пуганём ненажэрны Захад нашай звышмагутнай сілай. Газэтаў і часопісаў хутка ня будзе, бо ўся папера пойдзе на дэкрэты. Сёлета пачнецца выпуск самага разнастайнага спартыўнага інвэнтару, у іх ліку, унітазы на роліках з лыжнымі палкамі ў прыдачу і лодкі-надзьмуханкі на каньках. Галодныя сёлета атрымаюць фігі “сацыяльнай абароненасьці”, а ахвотныя ратавацца ад голаду самастойна, змогуць гандляваць ня толькі ворганамі свайго цела – ныркамі, мозгамі й крывёю – але й сумленьнем, бо за яго плоцяць добрымі й своечасовымі акладамі. Бяздомным сёлета палягчэе – страху над галавою яны змогуць зрабіць з дэкрэтаў і загадаў, якіх выпускаецца нашмат больш, чым будаўнічых матар’ялаў. Беспрацоўныя сёлета, як і летась, павінныя ўважліва чытаць пасланьні Самага Галоўнага й пакорліва йсьці на працу туды, куды іх пасылаюць. У прыбытковым бізнэсе застанецца толькі адзін від дзейнасьці – вытворчасьць лапшы. Лапшу Дзяржава будзе закупаць оптам, каб спраўна навешваць яе на вушы землякоў.

### 12. Я зь Дзяржавай у азартныя гульні не гуляю!

Так часта паўтарае адзін мой знаёмы. І ён мае рацыю, бо Дзяржава – гэта такі гулец, які пастаянна махлюе й таму выйграе. Пры цяперашніх парадках ня тое, што крок бяз Дзяржавы зрабіць нельга, але й пукнуць боязна: а раптам падаткамі абкладзе?

“Нядаўна, – распавядае мой знаёмы, – не было чаго есьці-выпіць. Дай, думаю, у донары запішуся. Спачатку крыві літар здаў. Затым нырку адну загнаў. Хацеў мозгі прадаць, але дактары іх у мяне ня выявілі. Выходжу з паліклінікі, а перад мной Дзяржава ў абліччы падатковага інспэктара. “А ты ліцэнзію на прадпрымальніцкую дзейнасьць маеш? – пытаецца. – А рахунак у банку адкрыў? А ў сацыяльным фондзе зарэгістраваўся? А дэкларацыю запоўніў?” Згінь ды прападзі: хацеў як лепш для сябе й людзей, а Дзяржаве вінен застаўся!”

А другі мой знаёмы вырашыў ажаніцца. Абвестку ў газэту даў, што шукае такую й такую. Адазвалася адна казачка. Пазнаёміліся, пайшлі ў ЗАГС. Адчыняюць дзьверы, а там спн. Дзяржава ў мундыры мытніка. Пытаецца:

– Ваш тавар мяйсцовай вытворчасьці ці завазны?

– Мая жонка – казачка, – адказвае малады.

– А ты заплаціў мытную пошліну ў валюце? А сэртыфікат якасьці на маладую ўзяў? А дакумант, што тэрмін выкарыстаньня ня скончыўся, маеш?

А яшчэ адна мая знаёмая перад Новым годам двойню нарадзіла. Двух хлопчыкаў. Выйшла з раддому, а яе спн. Дзяржава ў асобе вайскоўца спатыкае: “А ты сваіх сыноў на ўлік у ваенкамаце паставіла? Дзе яны хочаць служыць: у пяхоце ці ў дэсаньце? А можа яны намерваюцца ўхліцца ад выкананьня воінскага абавязку?” “Ну што ты ёй скажаш, гэтай вошы ўсюдыснай? – абураецца мая знаёмая. – Што маім хлопчыкам усяго тыдзень, і што яны, калі й змогуць служыць, дык толькі мінамётчыкамі – усе памперсы сваімі “мінамі” заплямілі”.

Адным словам:

*Падаткі цісьнуць людцаў да зямлі –*
*Такая тактыка ў “сеньёра Памідора”.*
*Каб ён і хебра пры грашах былі,*
*Хутка падатак увядуць на гора.*

**Правінцыялка**

---

19 лютага спаўняецца 89 гадоў вядомаму беларускаму паэту й грамадзкаму дзеячу Мацьвею Рэпкаву-Смаршчку (літаратурны псэўданім – Анатоль Бярозка). Жадаем шаноўнаму сп. Мацьвею творчых посьпехаў, добрага здароўя й доўгіх гадоў жыцьця!

*Супрацоўнікі “Руні”*

### Бачыў Н. Арсеньневу

апошні раз пры ейным жыцьці ў 1994 г., калі гасьціў у яе зь менскім карэспандэнтам Анатолем Клешчуком. Анатоль рабіў тады шмат здымкаў Н. Арсеньневай, бо ў Менску мелася выйсьці зборнік ейных вершаў. У тым часе нашая славутая паэтка была ў нармальным стане здароўя, думала й гаварыла, пісала, як на свае гады, добра, выглядала поўная на твары. Калі мы далі знаць, што прыедзем, яна прыгатавала дзеля нас адмысловы пачастунак. Гэта быў рыж з грыбамі (баравікамі). Яна сказала, што грыбы ў лесе зьбірала сама, страва была надзвычай смачна прыгатаваная. Такім было нашае апошняе спатканьне.

**Арсень Монід**
*Канада*

### Ёсьць такое сяло Дастоева

ў 35 кілямэтрах ад Пінску. У гэтае сяло ў 1897 г. на адрас а. Аляксандра Кульніцкага прыйшоў ліст ад удавы знакамітага расейскага пісьменьніка Хведара Міхайлавіча Дастаеўскага – Анны Рыгораўны Дастаеўскай, памершай у 1918 г. Яна пісала: “Мой нябошчык муж казаў мне, што ягоны род паходзіць з гістарычнай Літвы, ад пінскага маршалка Пятра Дастаеўскага, абранага ў Сойм у 1598 г. і пражываючага ў сяле Дастоева”. Анна Рыгораўна прасіла прыслаць ёй зьвесткі пра Дастаеўскіх з мэтрычных кнігаў мяйсцовай царквы. На жаль, гэты ліст не застаў сьвятара ў жывых, але-ж гэты ліст заахвоціў беларускіх дасьледчыкаў да пошукаў продкаў Дастаеўскага.

У выніку тых пошукаў, высьветлілася, што родапачынальнікам Дастаеўскіх зьяўляецца Даніла Раманавіч Рцішчаў, беларускі праваслаўны патомны шляхціц. У кастрычніку 1508 г. ва ўзнагароду за свае ратныя подзьвігі перад Вялікім князтвам Літоўскім ён атрымаў маёнтак Палкацічы й вёску Дастоева. Ад назвы гэтай вёскі ўжо ягоныя дзеці пачалі менавацца Дастоеўскімі – з націскам на “о”. (Дарэчы, сам пісьменьнік заўсёды вымаўляў сваё прозьвішча з такім націскам).

Унук Данілы Рцішчава, Пётар Дастоеўскі, спамянуты жонкай пісьменьніка, у 1599 – 1628 гг. насіў выбарнае званьне маршалка Пінскага павету, адначасова быў сябрам Галоўнага Трыбуналу ВКЛ, дзе выступаў у якасьці дэпутата ад Пінску, баронячы інтарэсы сваіх землякоў.

Сам пісьменьнік не аднаго разу згадваў сына Данілы Рцішчава, Стэфана, які быў менскім гарадзкім пісарам. Яму належыў маёнтак Сеньніца, што пад Менскам. Цікава, што цераз два стагодзьдзі гэтым самым маёнткам валодаў Дамінік Луцэвіч – бацька Янкі Купалы.

Яшчэ адзін сын Данілы Рцішчава, Хведар Дастоеўскі, быў адвакатам. Ёсьць гістарычны запіс пра тое, што ў 1572 г. Слуцкі гарадзкі суд разглядаў справу, паводле якой князь Курбскі зьявіўся ў суд у суправаджэньні “свайго сябра, пана Хведара Дастоеўскага, земяніна яго Каралеўскай міласьці павету Пінскага”.

Усе сыны Данілы Рцішчава – Стэфан, Пётар і Хведар – былі вядомыя, як абаронцы праваслаўя й беларускай народнасьці. Прадстаўнікі роду Дастоеўскіх не перайшлі ў каталіцтва, як тое зрабілі шмат якія беларускія шляхціцы. Яны пабудавалі на сяле праваслаўную царкву і ўсялякім чынам супраціўляліся палянізацыі. Аднак род паступова зьбяднеў і напрыканцы XVII ст. вымушаны быў пакінуць сваё радзіннае гняздо Дастоева. Аднак, дзе-б не жылі Дастоеўскія, яны заўсёды помнілі пра яго.

Дачка Х. М. Дастоеўскага, Любоў Хведараўна, памерлая ў 1926 г. у Італіі, успамінала, што “недалёка ад Пінску йснуе мяйсцовасьць пад назвай Дастоева – былы маёнтак Дастоеўскіх”. Сам-жа вялікі пісьменьнік нарадзіўся ў Маскве і ў Дастоеве ніколі ня быў. Але-ж ягоная дачка Любоў Хведараўна успамінала, што ейны бацька й дзядзькі часта гаварылі: “Мы, Дастоеўскія, ліцьвіны паводле паходжаньня!” Як вядома, ліцьвінамі ў той час называлі не сучасных літоўцаў, а беларусаў, а старабеларуская мова была дзяржаўнаю моваю ВКЛ.

Сёньняшняе Дастоева – вялікае, прыгожае сяло ў Іванаўскім раёне Берасьцейскай вобласьці. У мяйсцовай школе ёсьць музэй. Там можна пазнаёміцца зь мінулым сяла, якое датычыцца й продкаў вялікага пісьменьніка. Да самай сваёй сьмерці з музэем падтрымліваў кантакт Андрэй Хведаравіч Дастаеўскі. Ён быў нястомным зьбіральнікам усяго таго, што тычалася жыцьця й творчасьці ягонага знакамітага дзеда. На жаль, у Дастоева цяпер не засталося нават падмурку царквы, збудаванай Дастоеўскімі, а на мяйсцовых могілках зруйнаваныя зь зямлёю іхныя магілы.

**Слава Легенчанка**
*Аўстралія*

### Вас патурбаваў

сусед-беларус зь Ліды, былы рэдактар мяйсцовай газэты “Уперад”, а зараз пэнсіянэр. Мне прыемна й цікава чытаць вашую газэту, калі яна нейкім чынам трапляе ў мае рукі. Узрушылі мяне публікацыі пад загалоўкам “Мартыралёг Віленскага краю”. У захапленьні ад краязнаўчых матар’ялаў, каторыя вы часта зьмяшчаеце на старонках газэты. Дзякуй Вам за тое, што вы падтрымліваеце й змагаецеся за беларускую справу. Плёну вам у пачэснай справе.

**Алесь Жалкоўскі**, *Ліда*

---

17 студзеня 2004 г. на 88-ым годзе жыцьця пасьля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі дзеяч Віталь Кажан.

Віталь Кажан нарадзіўся ў в. Балбекі Шаркаўшчынскага раёну, Віцебскай вобласьці. Закончыў Дзісьненскую гімназію ў 1937 г. Служыў у войску польскім, працаваў настаўнікам на радзіме. Падчас вайны быў сябрам Беларускай Народнай Самапомачы (БНС). Пасьля вайны апынуўся ў Нямеччыне. З 1950 г. жыў у Амэрыцы. Напрацягу ўсяго свайго жыцьця актыўна працаваў на карысьць беларускай ідэі, быў нязьменным скарбнікам Рады БНР, дапамагаў незалежнаму беларускаму друку, аказваў дапамогу беларусам з Бацькаўшчыны й замежжа. Памяць аб ім будзе заўсёды з намі! Нашыя спачуваньні родным і блізкім нябожчыка.

*Супрацоўнікі “Руні”*




У наступным нумары ў рубрыцы “СЯЧКАРНЯ” чытайце артыкул, які пішыцца на падставе вывучэньня “Следчай справы № 51844 па абвінавачаньні Луцкевіча Антона Іванавіча паводле арт. арт. 64, 68, 74 і 76 УК БССР”. Артыкул прысьвечаны 120-годзьдзю з дня нараджэньня нашага знакамітага грамадзкага дзеяча, літаратара, навукоўцы, палітыка, пачынальніка Адраджэньня.

*Юры Весялкоўскі*

# Хто каго вучыў?

*Працяг. Пачатак у № 51-53*

За цароў не было ў Беларусі беларускіх школаў, над беларускім друкаваным словам вісеў дамоклаў меч забароны. Калі што за цароў й выдавалася па-беларуску, дык за мяжою або падпольна. Якая-ж магла тут быць "пэрспэктыва захаваньня й разьвіцьця" беларускае мовы й літаратуры? Беларуская мова перахоўвалася на вёсцы сярод сялянства, на ёй спахоўна пісалі беларускія патрыёты. Людзі трымаліся сваіх старых традыцыяў, абрадаў, сьвятаў, забабонаў.

Невядомы аўтар пісаў у часопісе "Пантэон" у 1859 г: "Нас цікавяць паданьні й вераваньні старажытных грэкаў, рымлянаў, мы пішам пра іхныя законы, міфалёгію, мову, нават пра шпацыры й абеды; чаму-ж не пісаць пра родную Беларусь, якая так славіцца сваімі самабытнымі звычаямі, міфалёгіяй, мовай і, нарэшце, ігрышчамі й сьвятамі?"

І неўзабаве беларускай спадчынай пачалі цікавіцца ня толькі беларускія, але й расейскія дасьледчыкі. Яны пачалі зьбіраць беларускія песьні, запісвалі абрады, звычаі й выдавалі іх асобнымі кніжкамі або зьмяшчалі ў рускамоўных выданьнях. Так, яшчэ ў часе вайны 1812 г., царскі афіцэр Канстаньцін Каляйдовіч, будучы ў Беларусі, зацікавіўся спадчынаю беларускага народу й пасьля вайны пачаў зьбіраць ды вывучаць беларускія старажытныя выданьні. Сумленьне падказала яму зьвярнуць увагу сьвету на важнасьць і неабходнасьць вывучэньня беларускай мовы, якая ў той час, ён асабіста пераканаўся ў гэтым, мела шырокае распаўсюджаньне.

Зварот Канстаньціна Каляйдовіча не прайшоў глуха: шмат тагачасных адукаваных людзей таксама пачалі ставіць пытаньне: што гэта за такі край Беларусь і якая мова ў беларусаў, каторыя яго насяляюць? Кожны па-свойму адказваў на гэтае пытаньне. Вось што піша на гэты конт сучасны беларускі мовазнаўца Фёдар Янкоўскі:

"Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі рускія лінгвісты XIX ст. (А. Востокаў, Ф. Буслаеў, І. Сразьнеўскі і інш.), азнаёміўшыся з жывой беларускай мовай праз фальклорныя тэксты, з вялікім захапленнем пісалі пра вартасьць і каштоўнасьць характэрных рыс беларускай фанетыкі, граматыкі, словаўтварэньня, лексікі для вывучэньня славянскіх моў, у тым ліку рускай.

Беларуская мова з яе асаблівасьцямі з'явілася неацэннай крыніцай для славістычнай навукі. Ф. Буслаеў, А. Востокаў, І. Сразьнеўскі, А. Сабалеўскі, А. Патрэбня, Ф. Фартунатаў і іншыя вядомыя вучоныя часта зьвярталіся да фактаў беларускай мовы пры гістарычна-параўнальным вывучэньні славянскіх і індаеўрапейскіх моў".

Акадэмік Сабалеўскі хаця й цікавіўся беларускай мовай, але, разам з Пагодзінам, не прызнаваў існаваньня беларускай і украінскай моваў і культуры. Сабалеўскі не хацеў прызнаць беларускай мове права называцца нават "наречием" расейскай мовы, а ўважаў яе толькі "поднаречием" вялікарускага "наречия". Падобнай думкі трымаўся й акадэмік Сразьнеўскі. У піку ім, польскі дасьледчык С. Ліндэ лічыў жывую беларускую мову польскім дыялектам: "так бардзо до польшчызна зблiжоны дыялект".

Палеміка паміж уплывовымі коламі польскай і расейскай вялікадзяржаўнай арыентацыі адносна беларускага "племя", ягонай прыналежнасьці, тым ня менш выклікала цікавасьць да культуры, мовы, гісторыі й пісьмовых помнікаў беларусаў. Але й самыя беларусы ў дадзеным пытаньні не сядзелі спакойна. Асабліва зацікаўленьне беларускім народам выклікала паўстаньне 1863 г. і ад таго часу пачалося ўсё больш інтэнсыўнае іх вывучэньне.

Адам Міцкевіч, з паходжаньня беларус з Навагрудчыны, хоць і аддаў свой талент польскай літаратуры, аднак у часе свайго выступленьня ў Парыжы сказаў: "На беларускай мове, якую называюць "русінскай" альбо "літоўска-русінскай"... размаўляюць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая чыстая гаворка, яна ўзьнікла даўно й выдатна распрацаваная". А польскі публіцыст Леон Васілеўскі заўважае: "Польскія рамантыкі (Чачот, Зан, Адынец і, найперш, Адам Міцкевіч) поўнай жменяй чэрпалі са скарбніцы беларускай народнай паэзіі. Сярод польскай моладзі ў Віленскім унівэрсытэце беларускія песьні карысталіся вялікай папулярнасьцю. Захавалася памяць, напрыклад, аб тым, што ўлюбёнай песьняй Адама Міцкевіча была беларуская "Ой, ляцела цяцера ды цераз лес"". ("Бялорусь і Літва". Кракаў, 1912)

У Вільні часоў Міцкевіча сярод студэнцкіх арганізацыяў "філяматаў" і "філярэтаў" было шмат выхадцаў зь Беларусі: згаданы ўжо А. Міцкевіч з Навагрудчыны, Т. Зан зь Меншчыны, А. Адынец з Ашмяншчыны, Я. Чачот з Навагрудчыны, І. Дамейка зь Віцебшчыны ды інш. Яны зьбіралі беларускі фальклёр, у сваіх творах усьпявалі Беларусь. Філяматы на сваіх патаемных зборках часта размаўлялі паміж сабою па-беларуску. На дзень народзінаў А. Міцкевіча Т. Зан складаў яму павіншаваньні па-беларуску.

Беларускай мовай карысталіся й іншыя студэнты, аднак хаця яны й мелі сымпатыі да беларускай (фактычна - іхнай роднай) культуры й марылі пра аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага, працавалі яны на карысьць польскай або расейскай культуры. Шмат хто зь іх упісаў свае прозьвішчы ў гісторыю ды культуры нашых суседзяў, іншыя-ж былі абыйдзеныя моўчкі. Як піша дасьледчык С. Васілёнак: "Яўным непаразуменьнем зьяўляецца замоўчваньне творчасьці такіх пісьменьнікаў, як Аношка, Януар Філіповіч, Пётр Мялешка, Ладо Заблоцкі ды шмат іншых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў канца XVIII пачатку XIX ст. ст. толькі таму, што яны друкавалі свае творы пра жыцьцё, побыт беларускага народу на польскай мове. Абсурднасьць гэтага відавочнага факту робіцца яшчэ больш відавочнай, калі даведаваемся, што іхныя імёны абыйдзеныя ў працах з гісторыі польскай літаратуры. Польскія літаратуразнаўцы ўважалі гэтых пісьменьнікаў беларусамі, паколькі яны былі выхадцамі зь Беларусі, жылі й працавалі там і ўсёй тэматыкаю свае творчасьці былі зьвязаныя з жыцьцём, побытам і барацьбой беларускага народу. Але гэтыя пісьменьнікі да гэтага часу засталіся ня ўведзенымі і ў гістарычны нарыс беларускай літаратуры!" ("Фольклор и литература Белоруссии". 1961, ст. 154-155)



*У цэнтры - Адам Міцкевіч, уверсе - Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, унізе - Антоні Эдвард Адынец, Ян Чачот.*

Падобна да А. Каляйдовіча й А. Міцкевіча пісаў пра беларускую мову акадэмік Расейскай акдэміі Д. І. Языкаў (1773 - 1845): "Настоящий язык белорусский есть весьма любопытный, который наши учёные должны тщательно изучать потому, что он много объясняет в русских летописях и филологии нашего языка: его можно назвать отцом великороссийскому наречию. Это, вероятно, тот самый язык, которым говорили в Пскове Новгороде при варягах. Устранённый благовременно от влияния монголизма и доселе не испытавший воздействия великороссийского наречия, он сохранил во многих отношениях свой старинный вид и характер и менее претерпел от формы польского языка, нежели думают ". ("Свабода" № 10, травень 1991)

*Працяг будзе*

**Умовы падпіскі на газэту "Рунь"!**

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$ 30 (EUR 25)**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак: *Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansa-LTB, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no.* ***10 000 196 490.***

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **261 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі й краінах СНД** паведамляем адрас у Пінску: *Сяргей Гут, 225710 Пінск-1, а/с 27.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 5**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 8**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых, эквівалентная **$ 10**.

Адрасы для допісаў:
⊠ «Рунь», 2001 Vilnius, a/d 1021
⊠ Ігар Перышч, Брэсцкая 116-9, 225710 Пінск.
**e-mail: editor@runbel.lt**

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | | |
|---|---|---|
| В. Станьчык зь Нямеччыны | USD | 25 |
| В. Кажан з Амэрыкі | USD | 25 |
| К. І Я. Вініцкія з Амэрыкі | USD | 20 |
| М. Бурнос з Аўстраліі | USD | 135 |
| Т. і М. Белямукі з Амэрыкі | USD | 20 |
| А. Жызьнеўская з Амэрыкі | USD | 50 |
| С. Шабовіч з Амэрыкі | USD | 50 |
| С. Будкевіч з Англіі | GPH | 50 |
| М. Баяроўскі з Англіі | GPH | 50 |
| І. Ільчук з Амэрыкі | SD | 50 |
| А. Субота з Амэрыкі | USD | 30 |
| А. Монід з Канады | SD | 100 |
| М. Сьнежка з Амэрыкі | USD | 30 |
| А. Міцкевіч з Амэрыкі | USD | 30 |

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
Lietuvos baltarusių laikraštis

**Выдаецца з 1997 году**
**Выходзіць адзін раз у месяц**
**Выдаўца**
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
***«Дэмакратыя для Беларусі»***

**Адрас рэдакцыі:**
**2001 Vilnius, a/d 1021**
**тэлефон: (+ 370) 652 07933**
**факс: (+ 370 5) 242 38 02**
**http://www.runbel.lt**
***e-mail:*** **editor@runbel.lt**
**Алег Мінкін – рэдактар**
**Павал Саўчанка – сакратар**

Друкарня UAB «Infosiûlas», Žirmūnų g. 68, Vilnius
наклад 1000